*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 26 лютага 1988 г. № 9 (3419) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



Стары Пінск. Зіма.
Фота А. ШАБЛЮКА.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ● Ці не створыць таварыства «Асвета»?

# ● Чытач—пра газету

# ● Дзе тая вуліца...

# ● Навошта турбавалі прафесара?

Газета «Правда» нядаўна змясціла надзвычай важны для справы абуджэння творчай актыўнасці мас рэдакцыйны артыкул «Дэмакратыя і ініцыятыва». Усцешыла тое, што галоўная газета краіны станоўча ацэньвае малады энергічны рух як моладзі, так і людзей сталага ўзросту па стварэнні нефармальных патрыятычных гурткоў і аб'яднанняў. Безумоўна, нам трэба турбавацца аб экалогіі, аб помніках мінуўшчыны і г. д. Але ж наспела патрэба і ў таварыстве, якое б садзейнічала выпраўленню памылак і хвароб у рабоце беларускіх школ, сістэмы дашкольнага і пазашкольнага выхавання цалкам. У краіне дзейнічае Дзіцячы фонд, але ж відавочна, што яму не пад сілу апекаванне над шматнацыянальнай савецкай школай. У той моўнай сітуацыі, якая склалася ў рэспубліцы, школе ўвогуле, і асабліва беларускамоўнай, не абысціся без дапамогі грамадскасці. Па сутнасці, аб дзецях пастаянна клапоцяцца, скажам, пісьменнікі, мастакі, студэнты-філолагі і іншыя, наведваюць школьныя калектывы, гурткі, спрыяюць рабоце музеяў, сустракаюцца з бацькамі, настаўнікамі. Але, да прыкладу, мінулагодні жнівень-верасень паказаў, што стыхійны рух энтузіястаў не пераадолее коснасці і фармалізму некаторых устаноў асветы ў справе адкрыцця ў сталіцы школ і класаў з роднай мовай навучання. Мала плёну і ад гутарак з бацькамі дзетак-шасцігодак—без прыцягнення да шырокай растлумачальнай работы ўсёй патрыятычна свядомай грамадскасці рэспублікі. Ёсць шмат спраў і ў апекаванні сельскімі школамі рэспублікі. Наспела неабходнасць узяць на ўлік метадычную і матэрыяльную базу соцень і соцень кабінетаў беларускай мовы, у якіх вельмі часта няма самага неабходнага для ўрока, для пазакласнай работы па прадмету. Трэба садзейнічаць памнажэнню школьных музеяў, гасцёўняў, драматычных гурткоў і многаму іншаму. Трэба дапамагаць дзіцячым садкам, у многіх з якіх амаль не гучыць беларуская мова. Школьная рэформа прабуксоўвае, дзяржаўныя ўстановы асветы не паспяваюць вырашыць усяго комплексу задач эстэтычнага і маральнага выхавання дзяцей. Чаму ж не прыйсці на дапамогу грамадскасці?

У Заходняй Беларусі з 1921 да 1937 года аж да забароны польскім буржуазным урадам існавала Таварыства беларускай школы (ТБШ). Яно налічвала да 30 тысяч членаў, аб'яднаных у 500 гурткоў практычна па ўсёй Заходняй Беларусі. Мела ТБШ і свае друкаваныя органы, напрыклад, газету «Наш палетак» і інш. (гл. «БелСЭ», т. 10). Вядома, якую прагрэсіўную ролю адыграла ТБШ у распаўсюджванні рэвалюцыйных ідэй сярод працоўных мас, не кажучы ўжо пра культурна-асветніцкую дзейнасць у Заходняй Беларусі. Лічым, што наспела вострая патрэба ў стварэнні аналагічнага ў накіраванасці сваёй культурна-выхаваўчай работы таварыства і цяпер ва ўмовах ідэалагічнай барацьбы з буржуазным светам, наступу агрэсіўнай пошласці, маскультуры, нацыянальна-культурнага нігілізму. Назва такога таварыства магла б быць «Таварыства «Асвета» ці «Таварыства «Беларуская школа». Не чакаючы вашага адказу, паважаная рэдакцыя, мы, група бацькоў мінскіх беларускамоўных класаў і груп, а таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, настаўнікі, студэнты і іншыя, хто не пакідае нас у адзіноце са сваімі нялёгкімі клопатамі ў выхаванні дзяцей без штучнага адрыву ад роднай мовы, паспрабуем стварыць суполку з адзначанымі ў нашым лісце вышэй задачамі.

Дарэчы, аб неабходнасці прыцягнення бацькоў і грамадскасці да вырашэння праблем асветы гаварылася на апошнім Пленуме ЦК КПСС аб перабудове вышэйшай і сярэдняй школы.

Першай практычнай справай аўтараў гэтага ліста стала арганізацыя і правядзенне ў 180-ай школе г. Мінска тыдня братніх моў—беларускай і рускай, які адбыўся ў пачатку лютага.

**Я. ЦУМАРАУ, В. ЯКІМОВІЧ, Г. МАХАЛЬСКАЯ, Я. СКРЫПЧЫК, В. ШПІЛЕУСКАЯ, М. АЛБУТ, настаўнікі і бацькі вучняў 1-га класа СШ № 180.**

г. Мінск.

●

Паважаныя таварышы!

Гадоў з дваццаць назад пачаў чытаць «ЛіМ». Маніць не буду, у нейкі час, асабліва ў незабыўныя застойныя гады, перастаў ім цікавіцца—газета стала ардынарнай, не адпавядала сваёй назве і прызначэнню. Цяпер—іншая справа. Кожны тыдзень чакаю «ЛіМ», як свята. Хвалююць амаль усе артыкулы, вострыя спрэчкі і супрацьлеглыя думкі. Толькі такім чынам выкрышталізоўваецца аб'ектыўны погляд на тую ці іншую з'яву. Радуе тое, што людзі розных пакаленняў, і асабліва моладзь, пачалі цікавіцца лёсам роднай мовы, культуры, гісторыі, а, значыць, пачынае расці ўсведамленне сваіх вытокаў. Да болю крануў верш «Адкажы» Ніла Гілевіча («ЛіМ», 29 студзеня 1988 г.) Як артыст бяру гэты твор на ўзбраенне.

Нарэшце пачалі згадваць свядома здатныя імёны У. Ігнатоўскага, І. Дварчаніна, У. Пічэты, В. Ластоўскага і іншых. Але ў асноўным пра іх пішуць літаратары, а хацелася б пачуць голас нашых аб'ектыўных гісторыкаў. (Дарэчы, нядаўна выйшла з друку кніга «Дары данайцаў». Дзе водгукі на яе людзей дасведчаных, якія займаюцца гістарычнай навукай? Няўжо лепш маўчанне?)

І яшчэ. Я працую ў коласаўскім тэатры, які нашы крытыкі ўпарта абыходзяць увагай. Чаму так? Няўжо іх не хвалюе лёс нацыянальнага сцэнічнага мастацтва? Мяркую, што вось так, няўвагай і непавагай да працы людзей, мы і ствараем «правінцыю». Але ж на гастролях за межамі рэспублікі наш тэатр прадстаўляе не адно толькі Віцебск, а ўсю Беларусь.

**А. ЛАБАНОК, акцёр Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.**

г. Віцебск.

●

У мяне, як карэннага пінчаніна, выклікае пачуццё гонару той факт, што менавіта з маім горадам, з Піншчынай звязана станаўленне Коласа-паэта, Коласа-празаіка, Коласа-грамадзяніна, змагара за правы палешукоў «людзьмі звацца». У Пінску ён жыў у 1912—1915 гадах. Тут ён працаваў настаўнікам старшага аддзялення трэцяга Пінскага прыходскага двухкласнага мужчынскага вучылішча (вул. Чыгуначная, 7). Тут ён пазнаёміўся з настаўніцай чыгуначнай школы Марыяй Дзмітрыеўнай Каменскай, якая ў 1913 годзе стала яго жонкай. У Пінску нарадзіўся іх старшы сын Даніла.

Нягледзячы на тое, што праца ў вучылішчы займала шмат часу, перыяд пражывання ў Пінску быў плённым ў творчасці Я. Коласа. У Вільні выходзяць яго першыя празаічныя зборнікі.

У Пінску напісаны ім такія апавяданні, як «Малады дубок», «Дзеравеншчына», «Чыя праўда?», і іншыя, шэраг вершаў. Пінскія ўражанні знайшлі адлюстраванне ў напісанай пазней трылогіі «На ростанях».

Але мяне засмучае і выклікае недаўменне, што ўжо многія гады будынак былога трэцяга двухкласнага мужчынскага вучылішча, дзе выкладаў паэт, нагадвае штосьці сярэдняе паміж пустой турмой і закінутым складам. А дом, дзе жыў Колас з сям'ёй, старэе, акрамя мемарыяльнай дошкі, нічога не сведчыць пра тое, што тут жыў вялікі сын Беларусі. А чаму, спытаць, не стварыць у гэтым доме музей паэта?

І вось яшчэ парадокс: спытайце ў пінчаніна, дзе ў горадзе вуліца Якуба Коласа? У адказ вы прачытаеце толькі здзіўленне ў вачах, бо такой у горадзе або зусім не існуе, а калі і ёсць, то, відаць, і не варта прысвойваць ёй такое ганаровае імя, бо самі гараджане не ведаюць аб яе месцазнаходжанні. Пра помнік паэту і гаварыць не даводзіцца: такой і думкі, відаць, не ўзнікала ў Пінску.

Думаю, даўно ўжо настаў час адкрыць рахунак на стварэнне ў Пінску музея і помніка народнаму паэту і перайменаваць Чыгуначную вуліцу ў вуліцу Якуба Коласа. Тым больш, што на гэтай вуліцы, як гаварылася вышэй, знаходзіцца будынак, дзе настаўнічаў паэт, па гэтай вуліцы ён хадзіў на працу і з працы дадому. Ды і месца для помніка тут някепскае: насупраць будынка былога мужчынскага вучылішча размешчаны сквер (праўда, і ён у занядбалым стане).

Думаецца, арганізацыі і ўстановы горада і раёна з задавальненнем адпрацуюць суботнікі і вырučаныя грошы г... равядуць у «коласаўскі» фо...

**В. ГРЫШКАВЕЦ.**

г. Пінск.

●

Трапілася нядаўна ў кіёску кніжачка «Сказ пра Лысую гару». Ёсць, значыцца, яшчэ порах у парахаўніцах беларускіх літаратараў. Так смяяцца над сваімі недахопамі і недахопамі сяброў (а не хіхікаць у рукаў!) можа толькі добры, адкрыты чалавек, які зычыць сваім сябрам, сваёй мове і літаратуры толькі дабра, толькі поступу, парнаскіх вышынь.

Пасля «Тараса на Парнасе» і баек Кандрата Крапівы я даўно ўжо нічога падобнага не чытаў.

Сілы вам, здароўя, і пачуцця гумару, дарагія беларускія л... таратары.

**М. ВЕРАЦІЛА, маляр.**

г. Ваўкавыск.

# ДЫЯЛОГ У АБКОМЕ ПАРТЫІ

Вершы ў гэтай зале гучалі, напэўна, упершыню. Шмат важных абмеркаванняў адбылося тут. Але паэтычныя радкі, што прагучалі ў пачатку сустрэчы членаў бюро абкома КПБ з літаратарамі Гродзеншчыны (іх прачытала маладая паэтэса Галіна Самойла), як бы прыўнеслі ў атмасферу сур'ёзнай і да многага абавязваючай гаворкі дух творчай нязмушанасці.

Адкрыў сустрэчу першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ Л. Г. Кляцкоў. Ён адзначыў, што задача, якая стаіць сёння перад літаратарамі, цалкам спалучаецца з задачай абласной партыйнай арганізацыі — дамагчыся, каб ідэі перабудовы авалодалі кожным чалавекам.

Л. Г. Кляцкоў коратка расказаў аб справах працаўнікоў Гродзеншчыны, іх удзеле ў працэсе перабудовы, адзначыў, што актыўна працуе абласная пісьменніцкая арганізацыя.

Сакратар абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР Аляксей Карпюк прадставіў удзельнікаў сустрэчы, расказаў пра новыя работы гродзенскіх літаратараў, адзначыў неабходнасць больш уважлівага стаўлення ідэалагічных інстытутаў да інструмента пісьменніка — мовы. Увага да беларускай мовы дазволіць вырашыць і праблему папулярызацыі нашай літаратуры, прытоку маладых кадраў у пісьменніцкія шэрагі, падкрэсліў прамоўца.

Да канструктыўнай размовы заклікаў прысутных крытык Аляксей Пяткевіч. Ён прапанаваў адкрыць у абласным цэнтры, гарадах Гродзеншчыны школы з навучаннем па ўсіх прадметах на беларускай мове. Справа гэта дзяржаўная, і на адным энтузіязме вырашыць яе немагчыма, падкрэсліў прамоўца.

А. Пяткевіч спыніўся таксама на праблемах увекавечання памяці Кастуся Каліноўскага, іншых выдатных дзеячаў гісторыі і беларускай культуры.

Падтрымала прамоўцу Данута Бічэль-Загнетава.

Пра адсутнасць кантактаў пісьменніцкай грамадскасці з абласным тэатрам, некаторымі іншымі ідэалагічнымі і культурнымі ўстановамі, пра неабходнасць захаваць і аднавіць цэнтр старога Гродна гаварылі Марыя Шаўчонак, Ігар Жук, Алег Наважылаў, Аляксей Якімовіч.

Востра ставілі пытанні выхавання ў моладзі пачуцця павагі да духоўнай спадчыны Аляксандр Жамойцін, Алена Руцкая і іншыя прамоўцы. Гродзенскія пісьменнікі ў стане выпускаць штогадовы альманах, падкрэсліў у сваім выступленні Юрка Голуб, але сённяшняя кнігавыдавецкая палітыка аб'ектыўна перашкаджае пісьменніцкай ініцыятыве.

На сустрэчы выступілі таксама Пётр Лісіцын, Анатоль Іверс, Анатоль Мацакоў, Віктар Кудлачоў.

На пытанні, пастаўленыя пісьменнікамі, адказалі старшыня аблвыканкома Д. К. Арціменя, сакратар абкома КПБ М. М. Бірукова, першы сакратар Гродзенскага гаркома КПБ А. І. Алешын, рэдактар абласной газеты «Гродненская правда» А. В. Богуш, першы сакратар абкома ЛКСМБ А. А. Крыўдзенка, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі абкома КПБ В. П. Таранец.

На сустрэчы выступіў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Ніл Гілевіч. Ён адзначыў, што адчуў у выступленнях гродзенскіх пісьменнікаў грамадзянскую заклапочанасць існуючымі праблемамі, што радуе жаданне кіраўнікоў вобласці разабрацца ў іх, шукаць шляхі іх вырашэння.

**А. НІДЭР,**
загадчык аддзела газеты «Гродненская правда».



Вечар адкрывае Максім Танк.

Паэт, драматург, тэатральны дзеяч — такім увайшоў у гісторыю пачынальнік новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Ягоная постаць на ніве нацыянальнага адраджэння асабліва прывабная. З імем гэтага чалавека і творцы звязаны яркія старонкі беларускага прыгожага пісьменства. У лепшых сваіх творах, такіх, як «Пінская шляхта», «Залёты» і іншых, пісьменнік выкрываў паразітычную сутнасць царскага чыноўніцтва, праўдзіва адлюстроўваў жыццё тагачаснай вёскі. Ёсць усе падставы гаварыць пра В. Дуніна-Марцінкевіча як прадаўжальніка лепшых традыцый рускай сатыры, у прыватнасці М. Гогаля і М. Салтыкова-Шчадрына.

Пра ўсё гэта гаварылася на вечары, прысвечаным 180-годдзю з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча, які адбыўся ў Доме літаратара. Адкрыў і вёў вечар старшыня праўлення СП БССР, народны паэт Беларусі Максім Танк. Слова пра жыццё і творчы шлях В. Дуніна-Марцінкевіча сказаў доктар філалагічных навук В. Жураўлёў. Пра асобныя моманты творчасці пісьменніка, яе сувязі з днём сённяшнім, яе актуальнасць і надзённасць гаварылі А. Петрашкевіч, Г. Кісялёў, А. Сабалеўскі, А. Асташонак.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

ПАЭЗІЯ

Пімен ПАНЧАНКА



# РАЗВІТАННЕ

Вялікая дзяржава—
Вялікая ідэя.
І ўсё ж, таварыш мой,
Мазгамі шавяльні:
Каля агню братэрства
Раслі і ліхадзеі,
І расцвітаў
Вялікадзяржаўны шавінізм.
Якія б войны
У нас не перакатваліся,
І як бы акупанты
Не дратавалі зямлю,
Рана ці позна
Народы распраўляліся з катамі,
І зноў аралі і сеялі,
І гаварылі: «Люблю».

Пахлі нашы пожні
Мятаю і рутаю,
А цяпер,
Пасля аграхімічных праполак,
Пахне глеба гербіцыдамі,
А вада атрутаю.
У рацэ—ні плотак, ні язёў,
Ні ў жыце перапёлак.
А нашы псеўда-асветнікі,
Сабраныя на канцылярскіх
сметніках,
Магутныя бюракраты
Даюць нам цішком парады:
«Гаворыш па-руску—
Інтэрнацыяналіст,
Гаворыш па-беларуску—
Нацыяналіст.
Вучы дзяцей французскай,
Англійскай, эсперанта,
Але не беларускай»—
Палохаюць піраты.
І адвучылі
Дзяцей і бацькоў,
І адлучылі
Ад родных народных слоў.

Вучоны невук
Ці дурнаваты крытык,
Якія паэзію
Не разумеюць і не адчуваюць,
То ў жанры даноса,
То пагардліва адкрыта
Мяне з году ў год
Ушчуваюць:
«Каму патрэбна
Тваіх маніфестаў рыторыка?
Трэба пра шчасце пісаць
І далі прасторныя».
А я журуся:
Мала у Беларусі
Разумных гісторыкаў,
Якія любяць і ведаюць
Родную гісторыю.

Яны смяюцца
Над думкамі залатымі:
«Знікае ўсё:
І вучэнні, і мовы, і веры.
Сёння Рым размаўляе
Не на латыні,
А Афіны гавораць
Не на мове Гамера.

Мы спазніліся
На сотні, напэўна, гадоў,
А можа,
На цэлае тысячагоддзе,
Мы забылі пра вольнасць
Старажытных сваіх гарадоў.
Наш цягнік адышоў.
Знікла родная мова
У народзе».

У кожнага ёсць
Свае рэкі—
Дняпро ці Нёман,
Ціхі Дон ці раз'юшаны Енісей.
У сваіх парадзелых лясах
Я не чую
Ўсхвалёваны гоман,
А рака памутнелага часу
Нас нясе і нясе, і нясе...

Пастаю я самотна
Каля полацкай белай Сафіі,
Паблукаю ў Гародні,
Пажуруся ў турава-пінскім
Палессі,
А вочы мае ўжо не плачуць—
Сухія, сухія:
Не чутно мне
З былога
Ні грому,
Ні звону,
Адны толькі казкі
Ды песні...

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
«Я веру: настане...»
Дарагі мой Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настала змярканне,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ

Міхась ЗАМСКІ

# «ІНДЫВІДУАЛЫ»

З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА

У СУБОТУ, акурат у дзевяць гадзін раніцы, я заняў месца за прылаўкам крытага павільёна сталічнага Камароўскага рынку. Агледзеўся, сказаў сабе: не хвалюйся, не губляйся, прызвычайвайся.

Справа ад мяне, расклаўшы тавар, стаяла пажылая цыганка, злева — малады чалавек з прыкметным прыбалтыйскім акцэнтам, які прадаваў розных памераў і фасонаў завушніцы, колцы, кліпсы і бранзалеты.

Я дастаў з торбы і паклаў на прылавак дзве сукенкі, спадніцу, трыкатажную кофтачку і незвычайнай прыгажосці чорны аксамітавы жаночы пінжак, да якога, быў упэўнены, адразу збягуцца пакупнікі з усёй Камароўкі. Выняў з кішэні паперкі, на якой папярэдне была запісана цана кожнай рэчы, і пачаў чакаць.

Што мяне спачатку бянтэжыла, дык гэта, так сказаць, асартымент майго тавара. Я ведаў, што «патэнтшчык» звычайна вырабляе і прадае нешта адно — або штаны, або сарочкі, або курткі і г. д. А каб адначасова і тое, і другое, як я, дык гэта, здавалася мне, выглядае надта падазрона. Я сказаў пра гэта ўпаўнаважанаму Савецкага АБРСМ Віктару Віктаравічу Курыльскаму, які павінен быў забяспечваць на рынку маё «інкогніта», але ён толькі ўсміхнуўся:

— Хай вас гэта не турбуе.

Стаўшы за прылавак, я зразумеў, што В. Курыльскі меў рацыю. Мая пажылая суседка прадавала, напрыклад, не толькі цёплыя нейлонавыя курткі саматужнага вырабу, але і фабрычную мужчынскую сарочку, шкуру андатры, шарсцяны шалік і яшчэ нешта зборнае. Так што я са сваімі амаль новымі сукенкамі, ахвяраванымі для «эксперыменту» мілымі рэдакцыйнымі жанчынамі, не выглядаў тут белай варонай. Хоць, вядома, калі трымацца існуючых правілаў, і мне і маёй суседцы належала стаяць са сваім таварам у тым месцы рынку, які быў адведзены спецыяльна для продажу старых рэчаў. Але кабета, як яна мне расказала, мела патэнт на шыццё куртак, астатняе, што ляжала на прылаўку, гатова была пры першай «небяспецы» імгненна схаваць. А я... Я наогул не меў ніякіх дакументаў ні на выраб, ні на продаж, ні нават на месца за прылаўкам, за якое таксама трэба плаціць. Мне заставалася толькі спадзявацца на тое, што фінінспектары, папярэджаныя наконт маёй асобы, на тое папярэджанне не забудуцца. І сапраўды, месца, дзе я стаяў, кантралёры абыходзілі, выклікаючы тым самым у маіх суседзяў непадробнае здзіўленне.

— Што гэта здарылася сёння з фінагентамі? — пытаўся ў мяне «ювелір».— Гэта ж яны, звычайна, на дні па некалькі разоў падыходзяць...

— Мо ў іх выхадны? — выказаў я не вельмі ўдалую здагадку.

— Выхадны? — перапытаў ён з іроніяй.— Дык жа я іх усіх у твар ведаю. Тут яны, тут...

Між тым, тавар мой не «ішоў». Праўда, у маёй суседкі — таксама. Мабыць, разоў дваццаць пакупнікі бралі яе курткі ў рукі, мацалі, прымервалі і... клалі на месца. А ўмела ж прадаваць кабета — і слоўца трапнае скажа, і камплімент чалавеку наконт яго прывабнага аблічча падкіне, а з якім умельствам расхвальвала тавар: «*Зимняя, зимняя куртка, бери, дорогой, не пажалеиш, и жине панравица, такой муж у нее красивы будит в куртке*».

Нарэшце адну куртку яна прадала. А неўзабаве і другую. Жанчына, настрой якой адразу палепшыўся, нахілілася да мяне і спачувальна спытала:

— Что, залатой, у тебя не берут?

Я зрабіў няшчасны твар і развёў рукамі.

— А ты не малчи, ты гавари: «Эй, сюда сматри, какой пиджак красивы. Вазми пашчупай, какой крэпки. Нигде такой не купиш»,— вучыла яна мяне...

Я нават не заўважыў, як за маёй спіной размясціўся з вялікім пакункам жаночых куртак малады чалавек сімпатычнага аблічча. Толькі ён тыя курткі развесіў, як адразу ўтварыўся натоўп з дзяўчат, якія цягнулі рукі:

— Мне, мне дайце, я першая падышла!

За якую гадзіну куртак як не было, усе прадаліся. І тут сервіс быў самы адмысловы. «Цесна, не зашпільваецца? Вось гэтую прымерце, яна на памер большая», «Прабачце, але ружовых больш няма. Калі будуць? Прыходзьце з раніцы ў наступную нядзелю, абавязкова прывязу»; «Ці можна адысціся да люстэрка?» «Калі ласка», «Пакінуць залог?» «Ды вы што — я вам веру».

Як было тут не ўспомніць насцярожаныя твары магазінных прадаўшчыц, іх падазроныя позіркі, якімі яны літаральна абмацваюць пакупнікоў. А паспрабуй перапытаць нешта...

У ТОЙ жа дзень на Камароўскім рынку прадавала свае вырабы Мінскае вытворчае швейнае аб'яднанне «Прагрэс». Пад навесам вісела і ляжала шмат球 рознага адзення: паліто, гарнітуры, сукенкі, сарочкі, курткі і г. д. За прылаўкам сумавалі трое жанчын і мужчына саліднага аблічча, які быў над імі, як я зразумеў, начальнікам. Хоць аб'ява абвяшчала, што «Прагрэс» вядзе сезонны распродаж тавараў, поўная адсутнасць пакупнікоў сведчыла аб тым, што аб'яднанне трывала ўвайшло ў паласу «мёртвага сезону».

Я пацікавіўся, чаму так слаба ідзе ў іх гандаль.

— Усіх пераманілі прыватнікі,— саркастычна заўважыла адна з жанчын.— Вы б пацікавіліся, чым яны гандлююць? Жах! Хоць бы ўзяць тыя штаны... Шво на іх крывое, фурнітура — горшай не бывае, адным бяруць — фальшывымі «лэйбамі», якія прышываюць куды можна і куды нельга. І бяруць за штаны — семдзесят пяць — восемдзесят рублёў. Рабуюць сярод белага дня!

За паўгадзіны да гэтага я меў размову з маладым чалавекам гадоў дваццаці трох, які, адышоўшыся ад прылаўка і трымаючы ў руках, дарэчы, акуратна згорнутыя ў цэлафанавы пакет, бялеса-шэрага колеру штаны, ззяў шчаслівай усмешкай.

— Колькі аддаў? — спытаў я.

— Танна, семдзесят пяць,— адказаў хлопец, вымаючы штаны і гэтак, на вока, прымерваючы на сябе.

— Тканіна так сабе, рублёў па шэсць за метр,— пакруціў я галавой, узяўшы тыя штаны ў рукі.— За што такія грошы дзяруць?

*Малады чалавек не надта ветліва* пацягнуў у мяне з рук сваю абнову і, звузіўшы вочы, сказаў:

— Вунь у магазіне гатовага адзення на Ленінскім праспекце навезлі штаноў з такой самай тканіны, пашытыя на Бабруйскай швейнай фабрыцы. Не бачылі? Каштуюць 60 рублёў. Я б за іх 30 пашкадаваў. Там жа нават калашыны неаднолькавыя. А фасон!..

Я расказаў пра гэты выпадак маім субяседнікам з «Прагрэса». Жанчын пераканаць было, вядома, архіцяжка, яны зноў узяліся даказваць, што ў іх шыюць у сто разоў лепей, чым у прыватнікаў, але кабет раптам гучна перапыніў мужчына, які неспадзявана стаў на мой бок.

— Запомніце, таварышы,— сказаў ён голасам спрактыкаванага прамоўцы,— моду нельга скідваць з рахунку, мода сёння на рынку правіць баль. Што грахі ўтойваць,—працягваў ён, — працавалі мы раней на вал. Больш валу — лепей усім: атэлье, аб'яднанню, міністэрству, нарэшце. Гэта і зарплата, і прэміі, і прагрэсіўкі, і падзякі, і павышэнні па службе.

Аддаўшы даніну моднай цяпер самакрытыцы (у прысутнасці карэспандэнта), чалавек, надаўшы твару гэткую значнасць, сказаў:

— Згодна з апошняй пастановай Міністэрства бытавога абслугоўвання, якому мы належым, будзе пераглядацца ўвесь асартымент у адпаведнасці з попытам, з кан'юнктурай. Ставіцца задача ўзняць рэнтабельнасць вытворчасці шляхам укаранення гаспадарчага разліку і самафінансавання...

Эх, колькі было ўжо выдадзена розных міністэрскіх пастаноў аб «пераглядзе», «укараненні», «паляпшэнні», «прывядзенні ў адпаведнасць», «узмацненні кантролю» і г. д.

Не магу не ўспомніць тут своеасаблівую споведзь маладога чалавека, які гандляваў каля мяне жаночымі курткамі.

— Мы, ведаеце, спачатку шылі курткі крыху іншага фасону. Узяў я, значыць, патэнт у пачатку жніўня, а да канца месяца з напарнікам пашылі ўжо больш як дваццаць куртак. У верасні і кастрычніку тавар *бралі добра*. Зарабляць пачалі ў тры разы больш, чым на асноўнай працы. Праўда, спалі па 5 — 6 гадзін ў суткі. Гэта ж, вы думаеце, у нас лёгка нешта набыць? Пайшоў у магазін і купіў? Тканіну, вацін, гузікі, падшэўку? Але заробак, паўтараю, натхняў. Ды ў верасні і кастрычніку бачым: курткі нашы не «ідуць», і «фірму» хоць зачыняй. Не ўлічылі, бачыце, кан'юнктуры. З ёй, гэтай капрызнай дамай, трэба абыходзіцца пачціва. Адным словам, мы са сваімі курткамі затаварыліся. Вырашылі паглядзець, што бяруць у першую чаргу і ў нас, у Мінску, і ў іншых гарадах. Вырашылі свае запасы ліквідаваць — прадалі за паў цаны, а выручаны «капітал» пусцілі на выраб новага асартыменту. Прыйшла мода на жаночыя курткі самых яркіх колераў, з шалікавым каўнярам, з шырокім рукавом ды на вацінe, каб можна было выйсці ў холад. Зрабілі адразу куртак пятнаццаць, вынеслі на Камароўку і за два дні прадалі. Потым зрабілі яшчэ партыю, потым яшчэ адну, адрываюць, як кажуць, з рукамі, вы ж самі бачылі...

Я слухаў яго і думаў: колькі часу спатрэбілася б дзяржаўнай швейнай фабрыцы, каб вось так перарабіць на іншы фасон які-небудзь выраб? Год, тры? Я не думаю, што фабрычныя канструктары-мадэльеры дурнейшыя за гэтых хлопцаў-саматужнікаў, што швачкі-матарысткі горш за іх шыюць. Справа ў тым, што трэба прайсці дзесяткі інстанцый, пакуль табе зацвердзяць новую мадэль.

Гэта толькі адна з праблем. *Мне здаецца, прадпрыемствы* лёгкай прамысловасці наогул не надта зацікаўлены ў збыце сваёй прадукцыі. Ва ўсякім разе нельга сцвярджаць, што гэта з'яўляецца для іх жыццёва неабходнай справай. Купляюць сукенкі той фабрыкі ў магазіне — добра, не купляюць — таксама не трагедыя, яна не «прагарыць», у банкруты не трапіць. Давала б толькі вал, выконвала б план...

Могуць спытаць, чаго гэта аўтар стукаецца ў адчыненыя дзверы? Няўжо ён не ведае, *што на дзяржаўных прадпры*емствах ўводзяцца ў практыку гаспадарчы разлік, самафінан-

(Заканчэнне на стар. 14—15).

## НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ І АБСЯГІ

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# «ГІСТОРЫЯ — ШМАТЖЫЛЬНЫ ПРОВАД...»

НАВАТ на лепшых працах гісторыкаў, прысвечаных перыяду феадалізму на Беларусі, лёгка ўбачыць шоры ўсемагчымых абмежаванняў, забарон, замоўчванняў, «агульнапрынятых пунктаў поглядаў» і «даўно вырашаных пытанняў». Даводзіцца сустракацца з ігнараваннем і ўтойваннем гістарычных фактаў, «міфатворчасцю». Міфы нярэдка падмянялі рэальнасць, а спробы «нестандартна» асвятліць мінулае Беларусі, паказаць вострыя, балючыя пункты гісторыі канчаліся прышыбееўскімі воклічамі (магу нагадаць здзеклівы водгук спецыяліста па савецкай этнаграфіі на навукова аб'ектыўную кнігу пісьменніка К. Тарасава). На працягу дзесяцігоддзяў тыя, ад каго залежала развіццё гістарычнай навукі, не лічыліся з яе спецыфікай. Самастойнае значэнне гісторыі адмаўлялася, ёй адводзілі службовую ролю — тлумачэнне тых ці іншых ідэалагічных тэзісаў. Замоўчванне пэўных з'яў і імёнаў прыводзіла да з'яўлення на карце гісторыі «белых плям», наяўнасць якіх не дазваляе зразумець логіку гістарычнага працэсу. Адзін з персанажаў «Доўгага развітання» Ю. Трыфанава слушна параўноўвае гісторыю краіны са шматжыльным провадам, з якога нельга вырываць асобныя жылы.

Шпаркія і адвольныя змяненні ацэнак гістарычных асоб і падзей, якія ва ўсіх на памяці, выклікалі ў людзей недавер да гістарычнай навукі, сумненні ў тым, ці навука яна ўвогуле, калі круціцца, нібы флюгер.

Шматлікія забароны прывялі да таго, што ў нас выхаваўся новы тып навукоўца, які страціў зваротную сувязь з чытачом, арыентаваўся толькі на начальства і пазбавіўся пачуцця адказнасці за вынікі сваёй працы.

Невыпадкова студзеньскі (1987) Пленум ЦК КПСС адзначыў, што «з тэорыі і грамадазнаўства адышлі прэч дыскусіі і творчая думка, а аўтарытарныя ацэнкі і меркаванні сталі бясспрэчнымі ісцінамі, якія падлягалі толькі каменціраванню». На Усесаюзнай нарадзе загадчыкаў кафедраў грамадскіх навук увосені 1986 г. М. С. Гарбачоў заклікаў грамадазнаўцаў пераадолець існуючую адцаленасць ад запытанняў жыцця.

Звернем увагу на адну з актуальных з'яў сучаснай гістарычнай навукі: на яе дэзінтэграцыю.

**У выніку развіцця гістарычнай навукі адбылося яе разгалінаванне на гісторыю сацыяльна-эканамічную, гісторыю права, ваенную, гісторыю мастацтваў, навукі, рабочага руху і г. д. Цяжка аб'яднаць усе гэтыя галіны ведаў у адно, як было калісьці. Навукоўцы ўсяго свету спрачаюцца пра тое, як вывучаць агульную гісторыю адной толькі культуры! Але ж неабходная хоць бы нейкая інтэграцыя разнастайных тэматычных кірункаў гістарычнай навукі.**

**У Беларусі гэтае разгалінаванне прывяло да таго, што ў Інстытуце гісторыі АН БССР і на кафедры гісторыі БССР БДУ імя У. І. Леніна вывучаецца галоўным чынам сацыяльна-эканамічная гісторыя. А гісторыяй культуры Беларусі займаюцца літаратуразнаўцы, філосафы, мастацтвазнаўцы, фалькларысты, этнографы і г. д. Сацыяльна-эканамічная гісторыя феадальнай Беларусі вывучана даволі грунтоўна, чаго нельга сказаць пра палітычную гісторыю. А менавіта ў гэтай галіне ўзнікае шмат складаных пытанняў.**

**Каб зрушыцца з мёртвай кропкі, мы павінны перш-наперш падысці крытычна да ўжо напрацаванага матэрыялу. Спробы ж некаторых навукоўцаў вывесці сябе «з-пад абстрэлу» такой крытыкі не адпавядаюць грамадскім інтарэсам і духу часу. Невыпадкова А. Якаўлеў у артыкуле «Дасягненні якасна новага становішча савецкага грамадства і грамадскія навукі» («Коммунист», 1987 г., № 8) канкрэтна ўказаў на тое, што ў гістарычнай навуцы немалая частка вучоных не займаецца самастойным вывучэннем крыніц і распрацоўкай навуковых ідэй, крытычным пераасэнсаваннем састарэлых уяўленняў. Даводзіцца канстатаваць, што на новай аснове адрадзілася вульгарная сацыялогія. Некаторыя гісторыкі пад выглядам выкаранення драбнатэмнасці прапануюць, па сутнасці, толькі напаўняць сацыялагічныя схемы «гістарычна» афармленымі фактычнымі ілюстрацыямі.**

**Гэтыя ж хібы прысутнічаюць і ў асноўных працах, прысвечаных палітычнай гісторыі феадальнай Беларусі. Гісторыкі часта адыходзілі ад дыялектычнага метаду Маркса, Энгельса, Леніна, схіляліся ў бок дагматызму. Асобныя прыклады такога падыходу ў гэтай галіне я паспрабаваў паказаць у папярэднім сваім артыкуле ў «ЛіМе». Чаму ж так адбылося? У чым канкрэтныя прычыны застою ў беларускай гістарычнай навуцы?**

Усім, вядома, што гісторык — спрадвеку чалавек залежны. Залежны ад свайго начальства, ад свайго асяроддзя. Гісторык мусіць прыстасоўвацца і да аднаго, і да другога, але ён мусіць у меру сваіх магчымасцей бараніць сваю незалежнасць. Развіццё ў XIX ст. крытычнай дэмакратычнай школы гісторыкаў (ад якой адгалінавалася сваім часам школа гісторыкаў-марксістаў) спрыяла паступоваму вызваленню навукоўцаў-даследчыкаў мінулага ад націску зверху або збоку і вызначыла ўзровень сапраўды навуковых манаграфій і іншых прац. Марксісцкая гістарычная школа мае вялікія дасягненні, між іншым таму, што ў супрацьстаянні «чужой» крытыцы і «сваім» вульгарызатарам абапіраецца на трывалую метадалогію.

Так, сярод абавязковых «правіл» ва ўжытак сумленнага гісторыка ўвайшлі: прынцып выкарыстання разнародных сведчанняў, у тым ліку і «процілеглага боку», абавязак уліку літаратуры на іншых мовах, доступ да замежных архіваў і выданняў, неабходнасць сачыць, каб ягоныя веды заўжды былі ўсебаковымі, глыбокімі. Прыгадаем, што ў 20-я гады мы мелі значныя поспехі ў вывучэнні тэорыі і методыкі гістарыяграфіі і крыніцазнаўства. Але потым, як вядома, запанавала сцвярджэнне Сталіна, што прынцыпы вышэй за факты. На яго думку, дыскусіі былі ўвогуле непатрэбны. З гэтай прычыны даследаванні ў галіне тэорыі і методыкі гістарыяграфіі, крыніцазнаўства ў 30-я гады былі спынены і адрадзіліся толькі пасля XX з'езда КПСС.

За апошнія два дзесяцігоддзі спецыялісты па гэтых праблемах выдалі цікавыя працы, збіраюцца час ад часу для абмеркавання сваіх тэарэтычных і метадычных праблем. Але ніводнага разу на крыніцазнаўчых канферэнцыях я не сустракаў беларускіх гісторыкаў (хоць старанна сачу за падзеямі ў крыніцазнаўстве), не чытаў іхніх тэарэтычных і метадычных прац. Самае большае, што з'яўляецца пад іх прозвішчамі — гэта публікацыі па лакальных пытаннях гістарыяграфіі і крыніцазнаўства з пералікам асобных крыніц і даследаванняў, якія, зразумела, не могуць замяніць аналітычныя даследаванні ў гэтых абавязковых для гісторыка дысцыплінах. Сучасная беларуская гістарыяграфія, такім чынам, часта зводзілася толькі да пераказу прац гісторыкаў у рэцэнзійным стылі.

Дрэнна выкарыстоўваюцца большасцю гісторыкаў, якія вывучаюць наша сярэднявечча, дасягненні сучаснай этнаграфіі, што, у сваю чаргу, вядзе да блытаніны ў вызначэнні рэлігійнай і этнічнай прыналежнасці насельніцтва Беларусі, а найперш — да выкрэслівання з беларускай нацыянальнай гісторыі ўсяго, што звязана са шляхтай і магнацтвам праз атаясамліванне беларускай шляхты і магнацтва з польскімі. Дадзеныя генеалогіі ў такіх выпадках, зразумела, ігнаруюцца.

Здзіўляе адвольны адбор у гістарыяграфіі Беларусі перыяду феадалізму прац заснавальнікаў навуковага камунізму, якія маюць прамое дачыненне да гэтай тэмы. Нават у неблагой увогуле манаграфіі М. Іеські «К. Маркс, Ф. Энгельс и революционная Белоруссия», якая вытрымала два выданні (1977, 1985), не разглядаюцца вельмі важныя для разумення гістарычнага шляху Беларусі працы класікаў марксізму. Асабліва гэта тычыцца раздзела палітычнай гісторыі краю XVIII—XIX стст. У гэтай сувязі варта прыгадаць, што пры Сталіне ў асяроддзі гісторыкаў усе знешнепалітычныя акцыі царызму апраўдваліся з «дзяржаўнага» пункту гледжання, папулярызавалася дзейнасць Івана IV і Пятра I, ўсіх іхніх нашчадкаў.

Трэба адзначыць заганай і аднабаковасць асвятлення тых або іншых з'яў, якая вяла да скрыўлення гістарычнага працэсу. Сама па сабе аднабаковасць у выглядзе канцэнтрацыі даследчыцкай увагі да пэўнай тэматыкі не шкодзіць, але калі яе прымяняюць непаслядоўна, гэта вядзе да перабольшвання значэння адных з'яў і замоўчвання іншых. У нас даволі добра вывучана роля каталіцкай царквы ў Беларусі ў XVI—XVII ст ст. Але «не пашанцавала» уніяцкай і праваслаўнай цэрквам, што стварае «перакос» у гісторыі рэлігіі. Брэсцкая унія асвятляецца ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі ізалявана ад гісторыі ўзаемаадносін каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, нават без упамінання Ліёнскай уніі 1275 г. Зацвярджэнне на Беларусі Брэсцкай уніі асвятляецца больш падрабязна, чым яе скасаванне ў 1839 г. Напрыклад, гаворачы пра ролю ў апошняй справе Іясафата Сямашкі звычайна «забываюць», што ён знішчаў рэлігійныя творы на беларускай мове (на гэтай мове амаль не было каталіцкай і зусім не было праваслаўнай рэлігійнай літаратуры). Не ўлічваюць і адмоўных ацэнак Іясафата Сямашкі з боку А. Герцэна.

Адвольны адбор фактаў і з'яў прывёў да таго, што ў трох дапаможніках для студэнтаў гістарычных факультэтаў (а менавіта дапаможнікі фарміруюць самасвядомасць будучых гісторыкаў) зніклі шматлікія назвы прац польскамоўных гісторыкаў, нават тых, хто нарадзіўся і працаваў на Беларусі. І калі яшчэ ў двух з іх — «Историческое краеведение Белоруссии» (1980) і «Этнография Белоруссии» (1981) згадваюцца імёны такіх даследчыкаў, дык у трэцяй кнізе — «Историографии БССР. Эпоха феодализма» (1986) — наогул няма гэтых імёнаў. Не названы там нават такія выданні па гісторыі Беларусі перыяду феадалізму, як кніг В. Шчарбакова «Сялянскі рух» і казацтва на Беларусі ў эпоху феадалізму» (1935), І. Лочмеля «Очерки истории борьбы белорусского народа против польских панов» (1940).

Можна было неяк зразумець ігнараванне польскамоўнай літаратуры беларускімі гісторыкамі ў 30-ыя гады ў святле тагачасных палітычных адносін між СССР і буржуазнай Польшчай. Але як зразумець такое замоўчванне ў нашы дні, асабліва ў той час, калі кіраўнікі КПСС і ПАРП падпісалі першую ў гісторыі сацыялістычных краін сумесную Дэкларацыю супрацоўніцтва ў галіне ідэалогіі, навукі, культуры?

Лічу тыповай праявай нацыянальнага нігілізму не звяртаць увагу на гісторыю дваранства Беларусі. Дарэчы, рускія і польскія аўтары, Тазбір, Весялоўскі, Бычкова і шмат іншых, сумленна вывучаюць гэтую праблему.

Ніяк нельга зразумець адсутнасць у беларускай гістарыяграфіі прац пра дваранскую рэвалюцыйнасць у краі, пра паўстанне 1794 г., якім кіравалі адзін за другім два ўраджэнцы Беларусі — Касцюшка і Ваўжэцкі, пра паўстанне 1831 г., абмінанне ў апошнім выданні шматтомніка «Гісторыя Беларусі» не толькі «экспедыцыі» Міхала Валовіча, — першай спробы спалучыць шляхецкі і сялянскі рэвалюцыйны рух не толькі ў Беларусі, але, здаецца, і ў Расійскай імперыі ўвогуле, — але і імёнаў Валовіча і Ваўжэцкага.

Ніяк не зразумець, чаму ў сумесных планах выдання «Літоўскай метрыкі» — дакументаў канцылярыі вялікіх князёў Літоўскіх, у вышэйшай ступені карыснай крыніцы па беларускай гісторыі — прымаюць удзел гісторыкі Польшчы, Літвы, Масквы, але не Беларусі.

Ніяк не зразумець, чаму не створана дасюль Археграфічная камісія пры АН БССР.

Мы слаба ведаем біяграфіі асобных дзеячаў грамадска-палітычнага і культурнага жыцця краю ў перыяд феадалізму (ды ці ж толькі ў гэты перыяд?). Пяты том выдання «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя» дае іх недастаткова. Таму прыходзіцца звяртацца да «Польскага біяграфічнага слоўніка», які не заўсёды дае адпаведныя ацэнкі гэтым дзеячам, а таксама далёка яшчэ не завершаны.

У той час, як у літаратуразнаўстве Беларусі вульгарны сацыялагізм падвергнуты сур'ёзнай і абгрунтаванай крытыцы, такое, на жаль, не адбылося яшчэ ў гістарычнай навуцы. Сумнай памяці кніга В.К. Шчарбакова «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі» (1934), шматлікія ацэнкі якой надоўга сталі эталонамі для беларускай гістарыяграфіі, за паўвека не дачакалася крытычнага разбору.

Крытыка буржуазных праціўнікаў фактычна зводзілася да лаянкі з эпітэтамі «хлуслівы», «ілжывы», «паклёпніцкі», «зламысная хлусня», «беспадстаўныя выдумкі», «брудныя спробы», якіх багата ў кнізе А. Абэцэдарскага «У святле неабвержаных фактаў» (1969). Аргументаваных прац у гэтай галіне няшмат, а рэцыдывы такога падыходу прыходзіцца нават сёння сустракаць у рэспубліканскім друку. У часы культу асобы лічылася, што вывучэнне нашых ідэйных праціўнікаў дае ворагу «трыбуну», а гісторык, які палемізуе з ім, нібыта распаўсюджвае яго погляды — ў форме прыведзеных у сваёй працы цытат.

Боязь дыскусіі з «праціўнікам» адлюстроўвае глыбокі недавер да ўласнага грамадства, перакананне ў ягонай фактычнай падатлівасці да «варожых» тэзісаў, няўвагу, насуперак сваім словам, да глыбіні тых перамен, якія адбыліся сярод нашага народа за семдзесят год Савецкай улады.

Антыгістарызм праяўляецца ў павярхоўнасці ацэнак, схематызме, анахранічным, пазакласавым праецыраванні сённяшніх з'яў на з'явы мінулага. Гэта можа адмоўна ўплываць на інтэрнацыяналістычнае выхаванне. Напрыклад, натуральнае імкненне беларусаў да супрацоўніцтва з братнім рускім народам у сацыялістычную эпоху штучна праецыруюць на ранейшыя перыяды, не разумеючы, што гэта адлюстроўвае, па сутнасці, неаславістычныя погляды дваранскіх і буржуазных гісторыкаў.

Я ўпэўнены, што ідэі інтэрнацыяналізму выхоўваюцца не на штучным прыпісванні беларускім сялянам і гараджанам у мінулыя стагоддзі іманентнай цягі трапіць пад падданства рускага цара, як гэта імкнуліся даказаць у неаславістычным стылі некаторыя гісторыкі кафедры гісторыі БССР БДУ, а на рэальных, цвярозых фактах сапраўднай асіміляцыі рускімі тых беларусаў, якія перасяліліся ў Расію, і беларусамі тых рускіх, якія ўцякалі ў наш край ад прыгнёту цара. Шкада, толькі, што пра апошнюю з'яву нашы гісторыкі не пішуць (нібыта гэта пашкодзіць ідэі інтэрнацыяналізму), бо не могуць дапусціць думкі, каб на Беларусь уцякалі жыхары Расіі.

Хочацца пагадзіцца з Ю. Паляковым, які піша: «Асноўнае цяпер — шчыра і пераканаўча, пазбягаючы далёкіх ад навукі крайнасцей, не па-бясстрасна-аб'ектывісцку, а па-партыйнаму, на базе абгрунтаванага аналізу гістарычнага вопыту, абапіраючыся на дасягненні гістарыяграфіі, якія ўжо ёсць, раскрываць шырока і поўна старонкі нашай гісторыі». («Литературная газета», 28 ліпеня 1987 г.). Менавіта ад актыўнасці гісторыкаў залежыць фарміраванне здаровага гістарычнага мыслення і палітычнай культуры грамадства.

Хто ж будзе выпраўляць памылкі мінулага ў нашай гістарычнай навуцы, калі шматгадовая селекцыя са знакам «мінус» прывяла яе ў застойны стан? Цудаў не бывае. Чакаць, што раптоўна перабудуюцца тыя, хто дзесяцігоддзямі знаходзіцца ў палоне звыклых ўяўленняў пра гісторыю феадальнага перыяду, наўрад ці выпадае. Працэсы, якія адбываюцца ў глыбінях чалавечай асобы, драматычныя. Яны ідуць у барацьбе са сваімі ўласнымі, усё жыццё вынашанымі перакананнямі і прывычкамі. В. В. Ключэўскі казаў калісьці, што «цвёрдасць перакананняў — часцей інерцыя думкі, чым паслядоўнасць мыслення».

Старая каляіна прывабная сваёй накатанасцю, але ці прывядзе яна да ісціны?

г. Ленінград.

## З ПОШТЫ АДДЗЕЛА КРЫТЫКІ «ЛіМа»

●

М. ТАЛОЧКА, друкуючы сваю рэцэнзію, відаць, не чакаў, што яго ацэнка паэтычнага зборніка У. Мазго «Вершаліна» (2.X.87) выкліча такі розгалас. Па-першае, як паведаміў «ЛіМ», абуранае пісьмо даслаў аўтар, па-другое, малады паэт М. Пазнякоў таксама звярнуўся ў рэдакцыю штотыднёвіка з патрабаваннем, каб кнігу У. Мазго прарэцэнзаваў «прафесійна падрыхтаваны чалавек».

Як бы там ні было, але газета надрукавала ліст Уладзіміра Юрэвіча. «Не трэба біць па крылах» (27.XI.87 г.), аўтар якога паспрабаваў вызначыць і станоўчае, і адмоўнае ў памянёным зборніку. Асноўная думка такая: ёсць недарэчнасці, бракуе паэтычнага мыслення, сустракаюцца штампы, аднак увогуле зборнік пакідае нядрэннае ўражанне. Прафесійны крытык заклікае свайго маладзейшага калегу М. Талочку быць больш спагадлівым, уважліва прыглядацца да кожнага слова і радка, не быць такім злосным у адносінах да маладога паэта.

Наконт пазіцыі аўтара зборніка «Вершаліна» У. Мазго. Вось як некаторыя літаратары ўспрымаюць у свой адрас крытыку (зазначым, у многім справядлівую, з чым пагаджаецца і У. Юрэвіч). Паэт становіцца ў позу пакрыўджанага, абвінавачвае газету, што прадставіла свае старонкі для негатыўнага водгуку на яго кнігу. Самакрытыка, на жаль, у паэта адсутнічае.

Магчыма, я не ўзяўся б за пяро. Але досыць часта заходжу ў гродзенскі магазін «Раніца» — апорны пункт выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аддзел беларускай літаратуры тут, бадай, самы багаты. Звярнуў увагу на зборнікі маладых паэтаў, паглядзеў на гады выдання. Ляжаць іншыя кніжачкі даўно, збіраюць пыл. І не скажаш, што прадаўцы абыякава ставяцца да распаўсюджвання вершаў пачаткоўцаў. Дамаўляюцца з бібліятэкамі, кніжныя кірмашы наладжваюць, на вуліцы выносяць, могуць і ў нагрузку прапанаваць, ды вынікі — не радуюць.

Хацелася б, каб літаратурная моладзь паразважала над гэтымі фактамі, перш чым спяшацца з рукапісамі ў выдавецтва.

Думаецца, далёка не ўсе творы маладых паэтаў, асабліва першыя спробы пяра, трэба выдаваць асобнымі кніжкамі. Скажам, былі спробы выпускаць пад адной вокладкай творы трох-чатырох аўтараў. Такія зборнікі цікава чытаюцца, ёсць магчымасць параўнання.

Сярод маладых пісьменнікаў ёсць і здольныя, і пасрэдныя. Гэта натуральна. Шкада толькі, што крытыкі хочуць заўсёды быць добранькімі, а значыць, не вельмі патрабавальнымі.

У тым жа нумары «ЛіМа», дзе У. Юрэвіч піша пра У. Мазго, змешчана і справаздача з адкрытага партыйнага сходу СП БССР, на якім Г. Каржанеўская гаварыла пра нездаровыя адносіны да крытыкі ў пісьменніцкім асяроддзі. Маўляў, як толькі «ЛіМ» надрукуе крытычны артыкул, так і пачынаецца асада рэдакцыі, гучаць тэлефонныя званкі, абвяржэнні і скаргі. Слушная заўвага, што клопат тут не пра развіццё літаратуры, перабудову ў пісьменніцкім асяроддзі, а пра «гонар мундзіра».

**В. ЗАДАЛЯ,**
**журналіст.**

г. Гродна

●

**ДАВЕДАУСЯ пра будучае выданне «Скарбаў сусветнай літаратуры» і хачу выказаць сваю думку.**

**Далучаюся да тых, хто за выданне гэтай серыі, і падтрымліваю прапанову рабіць пераклады з арыгінала. У той жа час разумею і таварышаў, якія заклапочаны цяжкасцямі паўнацэннага выдання «Скарбаў...» пры цяперашнім стане перакладчыцкай справы ў Беларусі.**

**Пісьменнікі разглядаюць праблему з прафесійнага пункту гледжання, але хаваецца за ёю і значны сацыяльны аспект. Бо пісьменнік, перакладчык—гэта вяршыня і ўзор моўнай культуры народа. Чым вышэй агульны ўзровень моўнай культуры народа, тым больш таленавітых прадстаўнікоў у радах творчай інтэлігенцыі. Праблема з кадрамі перакладчыкаў адлюстроўвае неспрыяльную сітуацыю, якая склалася ў моўнай культуры беларусаў, і ўключае ў сябе два ўзаемазвязаныя аспекты: узровень валодання роднай мовай і ўзровень валодання мовамі іншых народаў. Гарадское насельніцтва Беларусі размаўляе на руска-беларускай трасянцы, практычна ніхто з выпускнікоў сярэдняй школы і ВНУ не валодае замежнымі мовамі; з вывучэннем моў народаў СССР сітуацыя ўвогуле складаная. Натуральна, што такі ўзровень моўнай культуры цяжка назваць здавальняючым.**

**Пытанне развіцця ўласна беларускай мовы і літаратуры, папулярызацыі іх сярод іншых народаў залежыць таксама ад узроўню ўзаемасувязі і ўзаемадзеяння з культурай гэтых народаў. Гэты працэс важны для нашай краіны, Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, таму што гэта не толькі пытанне прафесійнай дзейнасці літаратараў, але і пытанне развіцця і ўдасканалення інтэрнацыянальных зносін.**

**Беларускамоўнага чытача ў малым аб'ёме і недастаткова аператыўна знаёмяць з навінкамі літаратур савецкіх рэспублік. Нельга ж увесь час чакаць, пакуль гэтыя навінкі з'явяцца ў перакладах на рускую мову ў выдавецтвах Ленінграда і Масквы. Узаемасувязь культур нават у асяроддзі літаратурнай інтэлігенцыі застаецца на ўзроўні другаснага і павярхоўнага ўспрыняцця, бо гаварыць пра глыбокае разуменне культуры другога народа, не ведаючы яго мовы і не маючы магчымасці знайсці адпаведны эквівалент у роднай мове, нельга.**

**Вядома, сітуацыю, якая ўзнікла ў сувязі з выданнем «Скарбаў...», як разавую праблему пераадолеюць. Але трэба глядзець у будучыню, трэба думаць пра паляпшэнне штодзённага інфармавання чытачоў Беларусі аб здабытках савецкай літаратуры і культуры.**

**Лічу, што зыходным і апорным пунктам у вырашэнні пастаўленых праблем было б стварэнне ў рэспубліцы інстытута моў народаў СССР. У дадзенай навучальнай установе можна было б вывучаць дасканала дзве мовы: беларускую (з правам пасля заканчэння выкладаць у школе) і мову адной з рэспублік Савецкага Саюза, дапоўненую вывучэннем гісторыі і культуры той жа рэспублікі. Неабходна таксама пашырыць колькасць моўных кафедраў Мінскага інстытута замежных моў і, у першую чаргу, увесці кафедру польскай мовы — мовы народа-суседа, з якім нас звязвае гістарычнае мінулае і даўнія літаратурныя і культурныя сувязі.**

**Я думаю, такое вырашэнне пытання дазволіла б стварыць базу для планамернага фарміравання перакладчыцкіх кадраў у Беларусі, адгарнула б новую старонку інтэрнацыянальных зносін паміж рэспублікамі Савецкага Саюза.**

**А. ШАМАК,**
**навуковы супрацоўнік РНМЦ культуры.**

●

ШМАТ ПРЫХІЛЬНІКАЎ у сатыры і гумару. І не дзіўна: вострае, дасціпнае слова заўжды было ў пашане ў народзе.

Я не буду ацэньваць агульны стан і якасць сучаснай беларускай сатыры і гумару. Проста хачу сказаць некалькі слоў пра тое, што дапамагае сатырыкам і гумарыстам у іх рабоце і што ім перашкаджае.

Некаторыя выданні зусім зжылі са сваіх старонак сатырычныя раздзелы. Праўда, у часопісе «Полымя» аднавілі сатырычны раздзел, ды вырашана друкаваць тут творы... толькі парадыйнага плана.

Рэдкі госць сатыра і гумар і на старонках часопісаў «Маладосць» і «Нёман».

Затое ёсць і іншыя прыклады. Не кажучы пра «Вожык», рэгулярна даюць выпускі сатыры і гумару часопісы «Беларусь» і «Работніца і сялянка», у «Вячэрнім Мінску» ёсць выпуск «Перасмешнік», у газеце «Знамя юности» — «Пятница», у «Мінскай праўдзе» — «Пачастунак з перцам», у «Советской Белоруссии» — «Смех смехом», у «Звяздзе» — «Смеху варта», у «Сельской газете» — аж два сатырычныя выпускі: «Почта деда Михеда» і «Воскресник».

Рэгулярна публікуюць сатырычныя і гумарыстычныя матэрыялы многія спецыялізаваныя выданні: часопісы «Народное хозяйство Белоруссии», «Сельское хозяйство Белоруссии», «За безопасность движения», «Родная прырода» і інш. Хто зацікаўлены ў тым, каб выданне было больш разнастайным, вострым і дасціпным, той знаходзіць і аўтараў, і цікавыя творы. Значыцца, справа не ў дэфіцыце твораў гэтага жанру, а ў адносінах да яго.

Ці варта даказваць, што раздзел сатыры і гумару станоўча ўплывае і на рост тыражу таго ці іншага выдання?

А зірнём на становішча некаторых відаў сатырычнага і гумарыстычнага жанру. Апошнім часам неахвотна бяруць у друк байкі. Асабіста мне, адзін вядомы паэт — работнік рэдакцыі— аднойчы заявіў: «Байка сваё аджыла». Ну, а калі задуму не ўкладзеш у рамкі фельетона ці гумарэскі, калі тут патрэбна байка і толькі яна?

Сёй-той з рэдактараў па-ранейшаму асцярожнічае і часам прымушае змякчаць фельетон, «пастрыгчы іголкі», як кажуць байкапісцы. Здараецца, што і вясёлую гумарэску надрукаваць нялёгка — камусьці яна здаецца залішне вясёлай, гуллівай. А сярэдненькі, легкаважкі вершык надрукаваць проста: ён жа нікога не закранае.

Тым не менш, сатырыкам і гумарыстам не трэба баяцца вострых вуглоў. Гэта якраз той выпадак, калі не трэба «рисовать овал», а толькі вугал.

І яшчэ. Мала якія сатырычныя і гумарыстычныя кніжкі, што выходзяць у выдавецтвах, рэцэнзуюцца, асабліва «вожыкаўскія». Вось толькі што выйшла ў бібліятэчцы «Вожыка» вядомая да гэтага ў вусным бытаванні паэма «Сказ пра Лысую гару». І, вядома, цікава было б пачуць пра яе думку крытыка.

З другога боку, калі тыражы «вожыкаўскіх» кніжак досыць прыстойныя (дваццаць і больш тысяч экземпляраў), то выдавецкія тыражы яўна недастатковыя. На самай справе, што значыць чатыры-пяць тысяч для сатырычнай кніжкі?

І дзесяць, і дваццаць гадоў назад казалі і пісалі, што для паляпшэння работы нашага сатырычнага цэха трэба стварыць у Саюзе пісьменнікаў секцыю сатыры і гумары. Але яе як не было, так і няма. А яна магла б, відаць, іграць сваю ролю ў развіцці жанру і літаратурнага працэсу ў цэлым.

**Мікола ВЯРШЫНІН,**
**інжынер.**

г. Мінск.

## ВІНШУЕМ!

**Спаўняецца 80 гадоў дзіцячай пісьменніцы Ядвізе Бяганскай. Праўленне СП БССР накіравала ёй прывітальны адрас з пажаданнямі добрага здароўя і новых творчых поспехаў.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбіляру ўсяго самага добрага ў жыцці і творчасці.**



**Ядвіга БЯГАНСКАЯ**

# СТОЛЬКІ ЗВЕДАЎШЫ І ПЕРАЖЫЎШЫ...

### РОЗДУМ ПЕРАД ЮБІЛЕЕМ

Мне нават не верыцца, што я пражыла такое доўгае і такое багатае на падзеі жыццё. Гэта ж за маёй памяццю адбылася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, адгрымелі гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, нарадзілася першая ў свеце дзяржава працоўных — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэта ж за маёй памяццю Беларусь з правінцыйнай ускраіны былой царскай Расіі ператварылася ў адну з перадавых рэспублік. Гэта ж за маёй памяццю на вуліцах Мінска запаліліся першыя электрычныя ліхтары, пабеглі першыя звонкія трамваі, успыхнулі блакітныя экраны тэлевізараў. Адным словам, усё, усё, чым ганарыцца сёння наш народ, стваралася на маіх вачах, за маёй памяццю.

Трыццатыя гады. Яны вызначаліся асаблівым размахам працоўнага энтузіязму савецкага народа. Амаль кожны дзень прыносіў людзям радасныя весткі аб поспехах і перамогах на франтах будаўніцтва. Са старонак газет і часопісаў усміхаліся нам героі працы — ткачыхі сёстры Вінаградавы, шахцёр Стаханаў, машыніст Крыванос і многія, многія іншыя. На неабсяжных прасторах Савецкай краіны выраслі гіганты прамысловасці: гідрастанцыі, шахты, заводы, фабрыкі. Ішла бурным ходам ліквідацыя непісьменнасці, гарачы ўдзел у якой прымала і я.

Для мяне асабіста трыццатыя гады пачыналіся таксама вельмі шчасліва. Яшчэ будучы школьніцай я марыла стаць настаўніцай. Прафесію гэтую я лічыла, ды і зараз лічу адной з самых высакародных і патрэбных людзям. У 1930 годзе я скончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт і была накіравана ў Мінскую ўзорную школу імя Чарвякова выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Мара мая збылася, і я была на сёмым небе ад шчасця. Усёй сваёй маладой гарачай душой я аддалася сваёй любімай працы. Школа, дзеці! Ім я належала цалкам, без іх не ўяўляла свайго жыцця. І хутка мае вучні на маю любоў адказалі зусім не меншай сваёй любоўю і ўзнагародзілі мяне самым высокім ганаровым званнем — званнем любімай настаўніцы. Аднак вельмі кароткім было гэтае маё шчасце.

Трыццатыя гады. Яны, нібы тая манета, мелі два розныя бакі. Побач з вялікімі здабыткамі самадданай працы народа, побач з нечуваным яго энтузіязмам, побач з вялікімі поспехамі ў будаўніцтве ў краіне ў гэты час пачало адбывацца нешта зусім незразумелае і неверагоднае. 20-ая гадавіна Кастрычніка, а ў краіне раптам з'явілася шмат «ворагаў». Адкуль яны ўзяліся, гэтыя людзі: «шпіёны», «дыверсанты», «шкоднікі»? Трыццатыя гады сталі гадамі культу Сталіна, гадамі жорсткіх рэпрэсій. Амаль ці не ў кожную сям'ю ўваходзілі яны, несучы з сабою тое жахлівае, што адбірала волю і жыццё, бесчалавечна дратавала гонар чалавека, яго заслугі перад наро-

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# Слова, якое працуе

**Б. Бур'ян. «І толькі надпіс...» Артыкулы і эсэ. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.**

Разгорнеш кнігу Барыса Бур'яна «І толькі надпіс...» і адразу пазнаеш почырк аўтара, чалавека захопленага, па-сапраўднаму ўлюбёнага ў літаратуру і мастацтва. Менавіта такім мы ведаем Барыса Іванавіча па сумеснай працы ў «ЛіМе», якой ён аддаў больш дваццаці гадоў, адкуль не так даўно і пайшоў на заслужаны адпачынак.

Кніга гэта таксама ў значнай меры нараджалася на старонках штотыднёвіка, адным з актыўных аўтараў якога Б. Бур'ян застаецца па сённяшні дзень.

Адкрываецца яна словам пра Пімена Панчанку «Каб пачулі і здгукнуліся». Свядома адмаўляюся вызначыць жанр матэрыялу. Падыдуць сюды і традыцыйныя «штрыхі да партрэта». Не памылішся, калі

 

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# З кнігі «І радасць і боль»

## Немагчыма

Мне часта шкодзіць мой язык,
Таму заўжды з бядой кручуся,
Бо праўду гаварыць прывык,
А лгаць ніяк не навучуся.

Хлусіць вучылі і не раз
Ліхія людзі і пакуты,
Але ніяк ілжывы сказ
Не мог звязаць язык прыкуты.

Не ўсё мы ўмеем шанаваць
І бачыць яснымі вачыма...
Без праўды можна існаваць,
А жыць без праўды немагчыма.

## 19 кастрычніка 1936 года

Здрабнелі зоркі ў тую ноч,
І месяц заблудзіўся дзесьці.
Мяне вядуць у змрок, а воч
Ніяк ад дому не адвесці.

Яшчэ зірнуў апошні раз,
І ад пакуты аж заенчыў,
Калі ў маім акне пагас
І без таго слабы агеньчык.

Шумела лісце, дождж імжыў,
У сцены біўся вецер з гулам.
І з гэтае хвіліны жыў
Я не ў наступным, а ў мінулым.

Паўзла дарога, як змяя,
Пранізваў холад мозг і цела,
І знічка ранняя мая
У чорным небе праляцела,

І след яе адразу знік
На заімглёным небакраі,
Не замаўкаў над намі крык
Начное крумкачынай зграі.

Вязуць. Не ведаю куды,
І так прыспешваюць таропка.
Няўжо у дваццаць тры гады
Лёс і на мне паставіў кропку?

Вязуць па вуліцах пустых,
Я не ў сваёй, а ў іх уладзе.
Мутнее зрок, тупее слых,
У думках поўнае бязладдзе.

Не мог тады я зразумець
Той таямнічае работы,
Што будуць дваццаць год рыпець
І па душы таптацца боты.

Як толькі ўспомню чорны год
І ноччу страчаную волю,
Астудзіць спёка, быццам лёд,
Завея апячэ да болю.

Дажыў я ўсё ж да сівізны,
Як ні ламалі, ні малолі,
А вось сябры маёй вясны,
Дамоў не вернуцца ніколі.

За імі спалены масты,
І сцежка даўняя глушэ,
Крышталь адвечнай мерзлаты
Аздобіў брацкую траншэю.

Яе карэнні апплялі
І дол сціскае невыносны.
Каторы год на той зямлі
Гайдаюцца над імі сосны.

ПРОЗА

Вячаслаў АДАМЧЫК



# Новыя апавяданні

## Маладзіковая нядзелька

На маім стале ў цёмна-ёдзістай шкляной вазе — букет трохі прывялых палявых кветак: сіняй злінялай валошкі, жоўтых з паніклымі галоўкамі рамонкаў (дзіва, але ў нашай старане я не спатыкаў іх) і ружавата-махрыстых шчотачак перапялічніку.

За акном — росная чэрвеньская раніца, чамусьці па-асенняму халаднаватая, з нерухома сінім шкляным небам, на якое, чапляючыся за крыжавіны антэн, што выткнуліся з чырвоных дахаў суседніх дамоў, набягаюць зыркабелыя, падсвечаныя знізу ранішнім невысокім сонцам, пухкія хмаркі. Душа зноў стыне ад прадчування бясконцага дажджу. Хоць учора, нібы на змену пагоды, на ружавата-чыстым небе, як толькі закацілася сонца, выясніўся танютка-белы, толькі што народжаны маладзік. У такія пагодныя, пад маладзікову, як маці казала, нядзельку, дні, сеўшы ў душнаваты з трапяткімі фіранкамі, з тугім скразняком, з ванільным пахам баранкаў і цёплым духам свежага хлеба вуркатлівы «Ікарус», я ехаў звычайна дадому...

Здаецца, нядаўна гэта было, а ўжо прабегла пяць ясных вёснаў з нізкім лётам ластавак над пясчанымі вясковымі дарогамі, з раскалыханым сінявата-ружовым жытам, абапал гэтых дарог, з адзінокімі пустымі хутарамі каля здзічэлых сівых яблыняў, з нейкімі смутнымі ці нуднымі ад чакання аўтастанцыямі.

Цяпер мая дарога дадому раптоўна абрываецца перад глыбокім ярам пустэчы, калі падумаеш, што ўжо не стрэне цябе, прыпасваючы на паўмежку карову, басаногая маці і не падасць шурпатую руку, кінуўшы граблі на падсушанае, растрэсенае на надворку і пахучае ад зуброўкі сена, прыжмураны, з дзіцячай ад бяззубага рота усмешкай, у вечнай, што скідалася толькі за сталом, кепачцы здзіўлены бацька.

І душа зашчыміць і абальецца гарачынёю жалю, калі ўявіш ужо зарослы лопухам, быльнікам і баркуном надворак, завязаныя нібы назаўсёды пацямнелым дротам весніцы, хату з наглуха зашморгнутымі фіранкамі ў маўклівых сляпых вокнах. Да парога не бяжыць тая даўнейшая, вытупаная нагамі ў мяккай мураве, у стракатай дзяцелінцы чорная крываватая сцежка, а на пляскаты камень па-магільнаму ўжо напаўзае доўгімі растапыранымі пасынкамі-плетунамі нязводны спарышнік. Помніцца і яна, счарнелая рамка ад матчынага абраза, павешаная на ржавы цвік каля вугла, як помніцца і пуга з рагатым ядлаўцовым пугаўём, што стаяла пры шырокім, перапрабленым з даўнейшага гумна, шара-патрэсканым глухім хляве, дзе ўжо не ўздыхае, перажоўваючы жуйку, прытомленая карова, як не пудзяцца, блытаючыся ў гарахавінні, трапяткія авечкі.

Летась я пастаяў пад застрэшкам, перачэкваючы дождж і чуючы нешта невыразнае, забытае і даўняе ад сточаных шашалем сцен, з жоўтаю парахнёю, нацярушанаю з глыбокіх чорных дзірачак на парваную сівую павучыну.

Ад дзікай з шурпатым камлём грушкі, што расла на ўзмежку, каля якой я фатаграфаваўся, стаўшы між яе белых, як абляпаных смятанай, звіслых галін, застаўся шары невысокі пень.

Грушку зрэзалі, горка казаць ужо — свае...

Іх, мацеры з бацькам, не стала, як цяпер ужо здаецца, нібы разам, хоць паміралі яны праз два гады: спачатку маці, паляжаўшы з тыдзень у бальніцы і нават даўшы наказ, у што і як яе ўбраць, і перад смерцю, як гэта зрабіла яе маці і бабка, памыўшыся, а праз два гады — бацька, ужо адзінока, седзячы на канапе і не паспеўшы апрануць чыстую бялізну—яна засталася ляжаць горбачкаю на крэсле пры той жа канапе.

Гэта таксама наш беларускі звычай — перад смерцю памыцца і адзець новую сарочку.

Што ў хаце нешта прылучылася, дагадаліся суседзі: цэлы дзень гарыць электрычная лямпачка і ад калодзежа да парога замецена снегам і няпрушаная сцежка.

Мне пазванілі вечарам з нашай гарадской пошты, што ёсць тэлеграма, прачыталі нейкім хрыплаватым голасам яе кароткі змест, той змест, што нечакана прыгняце і аглушыць чалавека: «Памёр бацька. Пахаванне паслязаўтра. Прыязджайце ўсе».

Не, гэтых слоў цяпер не было: «Прыязджайце ўсе...» Яны былі ў бацькавай тэлеграме, калі памерла маці, два гады назад, у цёплыя сакавіцкія дні 83-га. На нашай пясчанай зямлі нават сышоў снег і шашу перабягалі жаўтлява-ржавыя курапаткі, са спалавелага, збэрсанага ржышча мякка ўспырхвалі жаваранкі.

У лютым 85-га, як і сёлятняй зімою, стаялі моцныя маразы.

У сцішэлы, з ружавата-агністым захадам нядвячорак, з сінімі ўжо смутнымі доўгімі ценямі на чыстым снезе, я быў дома на заснежаным двары, з нейкім яшчэ патайным недаверам, што папраўдзе бацькі няма, ўвайшоў у настылую, тры дні не топленую хату, дзе абапала труны на заслонах сядзелі нашы вясковыя і хутаранскія кабеты.

Бацька, убраны ў цёмна-сіні касцюм, ляжаў у тым велічным спакоі, у якім звыкла ляжаць нябожчыкі. На падушцы побач з яго застылым, бяскроўна-белым тварам, які варажыў, паказваў на нешта благое яшчэ месяц назад перад астатняй нашай сустрэчай, калі я прывёз бацьку цёплую бялізну. Браў ён яе ўжо нехаця, перад гэтым сказаўшы: «Нашто яна мне». Як не брала і маці падораную ёй сінюю ў чырвоныя ружы японскую хустку: «Да мяне ўжо нічога не йдзе. У мяне й простыні вашы ляжаць неўжываныя.»

У бацькі з нагруднай кішэнькі выглядала расчоска, якую паклаў яму нехта з суседзяў, рукі былі перавязаны белай хустачкай.

Курносая, з цёмна-русымі, што выбіваліся з-пад суконнай хусткі, валасамі кабета, суседка праз адну хату, знарок, мусіць, для мяне ўжо ўздыхнула:

— У чацвер у нас быў. Прыйшоў прыбраўшыся, у фрэнчы.

Стрыечная сястра з блізкай суседняй вёскі Алена галосна, таксама ўжо для мяне, загаварыла:

— Дзядзька Ладзімяр у сорак дзён пасля мамы памёр. Яшчэ на саракавіны прыходзіў.

І кабеты адна перад другою пачалі пераказваць кожная сваё:

— Акуратны мужчына быў. Сам па сабе. Нікому не дакучаў.

— Мая мама лежма ляжала, пяць тыдняў.

— А ў яго во — лёгкая смерць...

— Не кажы, любка. У святым пісанні пішацца: «Збаў нас, божа, ад наглай і неспадзяванай смерці».

Даўкі камяк сціскае маё горла — я маўчу.

— Спі спакойна, спачывай,—нечы голас дадае мне жалю і я, каб не заплакаць, выходжу на двор, гляджу на вазок, засланы малінаванай стракатай радзюжкай, на каня, што ловіць на снезе цёмна-папяловымі губамі падкінутую канюшыну.

З братам мы яшчэ паедзем шукаць і прасіць назаўтра далакопаў ды наказаць сваякам з далёкіх вёсак, хто не ведае яшчэ пра бацькаву смерць, асабліва яго хрышчонай дачцэ, што замужам ажно за восем вёрст адсюль, у далёкіх Лудзічах.

...Пайшоў ужо трэці год, а тая паездка па навакольных вёсках сярод ветранай марозлівай ночы помніцца выразна. Нешта было ў ёй не толькі горкае, перамешанае з жалобай, але быў і іншы, яшчэ нават не вызначаны да сёння смутак і жаль—я расставаўся не толькі з бацькам, але і з тым родным, навакольным светам, з людзьмі, якіх ведаў змалку, але з якімі, пакінуўшы вёску, страчаўся рэдка, а цяпер, аб'язджаючы гэтых людзей, нібы развітваўся нанова і ўжо назаўсёды.

Першая хата, каля якой мы прыпыніліся, была ў суседняй, недалёкай — усяго за саўгаснымі фермамі — сселянай з хутароў пабудаванай нанова, на сваіх і не сваіх дварах, невялікай вёсачцы.

Мы прыехалі да стрыечнай сястры Алены. З глухой, з касабока прылепленай дашчанай верандай, хаткі на нас дыхнула кіславата-саладжавым духам вантробаў, крыві — усім тым, чым пахне хата пасля разабранага парсюка.

Я спатыкаюся ў цёмнай верандзе, ідучы на голас брата і яе, Аленін, што адгуквалася ўжо недзе з кухні. Там было таксама не вельмі ясна ад цьмянай лямпачкі. З непамытым яшчэ сталом, з апольцамі тоўстага дрыготкага сала на ім, з місамі і чыгунамі на падлозе, вузенькая цесная кухня таксама прыгнятала мяне.

— Я зараз, братка,—Алена выцерла аб фартух свае тлустыя рукі.—Пасядзеце — я мігам.

— Сядзець няма калі. Дзе ж Арсей? — пытае брат.

— Спіць вунь у хаце. Парсюка разабралі, прычасціліся са старым Кузюком і спіць.

— А мы прыехалі во,— брат паказаў на мяне,— папрасіць, можа, Арсей прыйшоў бы дол капаць?

— Прыйдзе.— Алена ўздыхнула.— А ваш тата, тут у нас седзячы, усё казаў, каб адразу памерці. Як прасіў, так бог і даў. Сэрца яму балела. Жаліўся мне. Я валер'янавых капель на-



 

**Па сутнасці, новая мадэль кінавытворчасці праблемы акцёраў не вырашыла. У Саюзе кінематаграфістаў упэўнены, што яны, як усе іншыя творчыя работнікі, не занятыя ў здымках, мусяць знаходзіцца ў творчым рэзерве. Акцёраў такое вырашэнне задаволіць ніяк не можа, бо прафесія вымагае пастаяннага захоўвання і гартавання творчай формы. Дзе! Лепш за ўсё, відаць, у тэатры — Тэатры-студыі кінаакцёра...**

## ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ, РОЗДУМ

# ПАКУЛЬ ЁСЦЬ ТАКІ ТЭАТР...

### Акцёр кіно: права на магчымасць выбару

За стварэнне эксперыментальнага тэатра-студыі на «Беларусьфільме» змагаліся доўга, але энтузіясты (сярод іх — акцёры Н. Жукоўская, Г. Рагачова, А. Дубровіна, Р. Шмыроў, Л. Румянцава, С. Турава) дамагліся свайго: тэатр-студыя быў адчынены — пад кіраўніцтвам Дзяржкіно і на балансе кінастудыі. Здавалася, самае цяжкае мінула, толькі стварэнне ўласнага т э а т р а — справа карпатлівая і вельмі далікатная...

Своеасаблівыя «знішчальныя штуршкі» тэатр-студыя адчуў даволі даўно, таму што супярэчнасці (зусім не дыялектычныя) вынікалі з самой яго прыроды. Тэатр-студыю заснавалі не толькі аднадумцы-прафесіяналы з адметнымі творчымі памкненнямі, але і адміністратары, якія зацвярджалі штатны расклад. Паводле яго студыйцамі абавязкова рабіліся ўсе акцёры «Беларусьфільма». Праўда, пазбыцца гэтага «ганаровага абвязку» некаторыя здолелі адразу, сёй-той прылоўчыўся браць удзел у спектаклях без асаблівых намаганняў. Адначасова ўзніклі і сумненні ў мэтазгоднасці існавання тэатра-студыі, а таксама крыўды і ўзаемныя папрокі... Далейшае развіццё падзей выклікала шмат спрэчак, палкіх абмеркаванняў, згод і нязгод. Кінаакцёры ці не ўпершыню апынуліся перад выбарам: здымачная пляцоўка ці сцэна?

**За шэсць гадоў свайго існавання тэатр-студыя давёў сваю творчую самастойнасць. Ён зрабіўся адным з самых папулярных тэатраў Мінска — тэатрам з пастаянным аншлагам, адметным мастацкім абліччам, творчай платформай. Дый пра рэпертуар можна сказаць — цікавы. «Не баюся Вірджыніі Вулф» Э. Олбі, «Камедыя пра Лісістрату» паводле Арыстафана, «Сам-насам з усімі» А. Гельмана, «Шчасце маё» А. Чарвінскага, «Жаніцьба Бальзамінава» А. Астроўскага, «Фантазіі паводле Гогаля», «Глядзіце, хто прыйшоў» У. Аро, «Феномены» Г. Горына, «Дзівак з Ганчарнай вуліцы» І. Чыгрынава, «Прабачце, свабодных месцаў няма» К. Адамайціса... Менавіта пошукі формы — адна з найцікавейшых асаблівасцей творчага працэсу ў тэатры-студыі, дзе рэжысёры і акцёры маюць заўсёдную магчымасць спробы сіл, пошуку, выпрабаванняў. Пляцоўку тэатра-студыі «абжывалі» кінарэжысёры В. Рубінчык і Я. Грыбаў, рэжысёр-педагог Л. Манакова, акцёры, якія спрабуюць сілы ў рэжысуры — А. Бяспалы і У. Грыцэўскі. Спектаклі галоўнага рэжысёра Б. Луцэнкі выклікалі сапраўдную глядацкую цікаўнасць — мастацкім вырашэннем і яркімі акцёрскімі работамі С. Кузьміной, Ю. Казючыца, Л. Мардачовай, П. Юрчанкава, І. Мацкевіча, А. Цярпіцкага, А. Гур'ева, Р. Шмырова...**

Апошнім часам, калі ажывілася тэатральнае жыццё ўсёй краіны, мінскія акцёры таксама адчулі патрэбу актывізавацца (а калі ўлічыць працу ў кіно і папулярнасць некаторых з іх, дык такая актывізацыя мусіць даць пэўны плён). У акцёраў з'явіўся выбар (стварэнне новай студыі, тэатра на гаспадарчым разліку і да т. п.). З'явіліся лідэры, здольныя захапіць сваімі ідэямі — асабліва тых, хто раней быў пазбаўлены самастойнасці. Склалася сітуацыя, што распаліла акцёрскую ўражлівасць; кожны задумаўся над сваімі паблемамі і нерэалізаванымі магчымасцямі. Да прыкладу, так: можа, зусім неабавязкова шчыраваць на сцэне, калі ёсць магчымасць дзейнічаць не як рэжысёр сказаў, а як сам захацеў? Можна стварыць канцэртную брыгаду... Можна здымаць свой фільм...

Гэтыя перспектывы, што адкрыліся так ярка і заманліва, зрабіліся добрым фонам, на якім і не надта пільнае вока разгледзіць супярэчнасці паміж духоўнай прыродай творчасці і прынцыпам эканамічнай мэтазгоднасці. Менавіта камерцыйныя інтарэсы «справакавалі» процьму ідэй — самых неверагодных і не самых творчых. Шмат каму з акцёраў матэрыяльная зацікаўленасць пачала засціць мастацтва. Праўда, у тэатры-студыі акцёры ў гэтым сэнсе як нідзе маюць рацыю, бо за спектаклі атрымліваюць — выкажуся далікатна — няшмат. Асноўны заробак акцёраў — так званыя «прастойныя» грошы, што пакладзены як аплата працы ў перыяд незанятасці на здымках. А вось занятасць у тэатры практычна нікім не ўлічваецца, таму ў творчай картцы акцёра ставіцца «прастой» нават тады, калі на сцэне ён іграе складанейшую ролю Хлестакова. Фармальна акцёр «прастойвае», значыць, паводле адміністрацыйнай логікі, не працуе. Каб зарабіць, яму ямчэй заняцца агучваннем, дубляжам, любой дапаможнай працай — але ў кіно, бо дзень паставяць «здымачны». Да таго ж і акцёрскія стаўкі вызначаюцца на падставе работы ў кіно, а на тэатральную дзейнасць бухгалтары не зважаюць. Ці мае выгаду акцёр, які працуе ў тэатры-студыі? Ці выгадны наогул гэты тэатр?

Паводле творчых перакананняў — так. Кожны хоча сыграць цікавую ролю. Але ці набярэшся Хлестаковых і Гамлетаў на ўсіх? Даводзіцца задавальняцца і маленькімі ролямі, і ў масоўцы працаваць. Адсюль — незадаволенасць. Чаму рэжысёр бярэ гэтую п'есу, а не тую? Чаму нехта іграе галоўную ролю, а я — не галоўную? І наогул: хто ў тэатры... галоўны? Мы, акцёры кіно, для якіх тэатр-студыя створаны, ці ён — галоўны рэжысёр тэатра. Чаму ён дыктуе нам сваю волю?

Такім чынам, да тэатра ставяцца па-ўтрымансху, да кіно — з пашанай. У кіно — на ўсё згодны, у тэатры... Хоць кожны і хоча вылучыцца ў цікавай ролі, але ж у якім іншым тэатры стане круціць носам, калі яму гэтую ролю прапануюць? Тут — круцяць. І, на жаль, зусім не з мастацкіх меркаванняў. А раптам у кіно што патрапіцца — больш вартае?..

Што й казаць, кожнаму зразумела: існаванне любой студыі забяспечваецца адметнасцю мастацкай праграмы (як і ўласным почыркам, воляй, талентам лідэра і г. д.). Не будзе такой праграмы — студыя ператворыцца ў нейкае няпэўнае, недакладнае па змесце канцэртнае аб'яднанне з сумніцельнай мастацкай рэпутацыяй Што ж рабіць з Тэатрам-студыяй кінаакцёра ў новых эканамічных умовах? Адказ можа быць, напрыклад, такім: скасаваць, закрыць. Ці такім: даць яму магчымасць развівацца як самастойнаму тэатральнаму фарміраванню, замацаванаму за «Беларусьфільмам» (для забеспячэння матэрыяльнай базы, як гэта цяпер і робіцца). А вось наконт матэрыяльных выгод... Так, тэатр-студыя вялікіх прыбыткаў не дае (калі ж надараюцца страты, іх скасоўвае кінастудыя за кошт сваіх рэзерваў). Да таго ж, і большасць акцёраў тэатра-студыі не сказаць, каб часта здымаліся, хутчэй, наадварот — галоўныя ролі шмат каго абмінаюць і да гэтага часу... Ёсць некалькі выключэнняў, але яны толькі пацвярджаюць «правіла»: акцёры тэатра-студыі зусім не «нарасхоп» у рэжысёраў беларускага кіно...

Дарэчы, пра кіно. Праблема нацыянальнай школы ў беларускім кінематографе абмяркоўваецца дзесяцігоддзямі. А школы такой — усё няма. Падмуркам для яе мог бы зрабіцца Тэатр-студыя кінаакцёра, бо так ці інакш, а ўсё-ткі дае акцёрам і форму, і ўменне, і прапануе эксперыментаваць на сваёй сцэне рэжысёрам кіно. А яны, рэжысёры кіно, пацiскаюць плячыма: маўляў, што гэта за кінаакцёры, якія працуюць у тэатры? І... выклікаюць на здымкі чарговую актрысу з Масквы: тая хоць і талентам не вылучаецца, але ж слова насуперак не скажа.

Так, не ўсе, хто рыхтаваўся да дзейнасці ў кіно, здолеюць выйсці на сцэнічную пляцоўку, бо істотна розняцца самі творчыя метады кіно і тэатра, сама іх творчая прырода. Але і адно без другога, як даводзіць сённяшні дзень, таксама не існуюць. Застаецца складаным і супярэчлівым стан маладых акцёраў, якія імкнуцца здымацца ў кіно і не надта добра ўяўляюць тэатральныя перспектывы, хоць сярод іх шмат таленавітых і здатных да творчых пошукаў: А. Бубашкін, Д. Іосіфаў, І. Лянёў, А. Мірошнікаў, І. Сцяпанаў, І. Нарбекава, А. Адзінцова... Свае праблемы яны вымушаны вырашаць самі. Дык хто павінен рупіцца пра акцёраў, клапаціцца пра пашырэнне іх творчага дыяпазону і занятасць, урэшце, матэрыяльны дабрабыт? У якасці выйсця прапанавана стварыць не адно толькі тэатр, але і своеасаблівы «кіна-тэатральна-канцэртны комплекс» (эканамічна больш выгадны за «проста» тэатр). Але ці выйграе праз гэта мастацтва? Ці не з'явіцца замест цікавага тэатра звычайная, хоць і спрактыкаваная акцёрская брыгада?

Будучыня тэатра залежыць і ад рэпертуарнай палітыкі, а выбар п'ес, натуральна, ад рэжысуры і творчай платформы калектыву — ад накіраванасці ягоных мастацкіх памкненняў. Будуць ажыццяўляцца пастаноўкі вялікіх сцэнічных палотнаў ці — камерных спектакляў, як зручна акцёрам? Цяпер поўным ходам ідуць рэпетыцыі «Гамлета», дзе занята большая частка мужчынскага складу трупы. Не пакідаюць надзеі на «жаночую» п'есу актрысы тэатра. Калі тэатр-студыя захавае сваю творчую і мастацкую самастойнасць, дык зможа пашыраць рэпертуар за кошт монаспектакляў і камерных пастановак, літаратурных вечароў, канцэртаў, спецыяльных праграм «Майстэрня акцёра» — з тым, каб кожны акцёр дакладна сабе ўяўляў, што чакае яго ў тэатры і натуральна спалучаў яго з кінатворчасцю. Толькі так тэатр-студыя можа захаваць сваё аблічча, а акцёры — сваю мастакоўскую пазіцыю.

Думаецца, што ўсе творчыя работнікі мусяць зразумець: мастацтва — крохкая «рэч»... Ніякія гаспадарчыя разлікі не ўратуюць становішча, калі з тэатра знікне галоўнае: чуйны дух акцёрства — як уменне і жаданне служыць мастацтву.

**Маргарыта ПУШКІНА.**

---

клёнамі, што наўкруг сябе рассцілалі варухлівы цянёк, хто-небудзь з грузчыкаў здымаў зашмуленую кепачку і пускаў па крузе, і ўсе з нейкай радаснай ухмылачкай абмацвалі кішэні, дастаючы пакамечаныя рудаватыя рублі, а потым крадком беглі да Тані на гарэлачную базу. Прыносілі пад поламі пінжакоў, падтрымліваючы пад дно, тры гусакі, або, як казалі, тры паўтаракі віна.

Схаваўшыся за награмоджаныя пустыя скрынкі ў сутоках між складаў, пілі спачатку там, закусваючы якімі-небудзь сушкамі хлеба, што астаўся ад полудню, і добра хмялелі, а надвячоркам ішлі дабавіць у чубе да старой Казмерчыхі, што, задраўшы чырвоны аблуплены нос і мільгаючы худымі выпетранымі нагамі, шмыгала то ў сенцы, то з сянец, носячы заткнутыя папяровымі размоклымі заткаламі бутэлькі слабенькай, што нават і не гарэла, самагонкі, якую яна перакупляла ў вясковых маладзіц, што прыбягалі ў мястэчка, накінуўшы на плечы вялікія хусткі, і пад гэтымі хусткамі прыносілі карзіны з цяжкімі трохлітровымі слоікамі.

Пасля такога гасцявання, а калі яно здаралася пасля палучкі, дадому Федзя прыходзіў без рубля ў кішэні. Непадступна-маўклівы, яшчэ не вычханы ад перагару, злы, крыўдны на сябе і на цэлы свет, ён толькі і чакаў, калі адзавецца, акажацца яго нязграбна-высокая сутулаватая Люба, каб схапіць што-небудзь падхватнае ў руку і вытурыць яе з хаты, і не проста вытурыць, але яшчэ прабегчы за ёю ўпагон праз усе вясковыя агароды; у Любы тады быў адзін ратунак — дабегчы да блізкага, што ўжо зліўся з мястэчкам, хутара, да стрыечнай сястры і там засунуць дзверы.

Назаўтра ж уся наша вёска траслася ад нечаканай навіны — сустрэўшыся на вуліцы або пры калодзежы, жанчыны перапытвалі адна ў адной: «Людцы, ці ж бачылі, як учора Федзя гнаўся за сваёю, балазе не злавіў, а то знявечыў бы. Гэтакі шалёны быў».

Любу сваю, ад бядоты ды нэндзы схуднелую панурую маладзіцу, якую ўзяў з суседняй вёскі разам са старою зрубленаю на даўнейшы лад, але яшчэ моцнаю хатаю, Федзя не любіў.

Калі ж мая маці сарамаціла яго, што ці варта гэта біцца, каб людзі потым смяяліся і каб самому брыдка было, Федзя цвёрда, па-цвярозаму ўжо злосна і, не тоячыся, адказваў: «Цётка Броня, ну не люблю яе. Збрыдзела яна мне. І смярдзіць, не падысці да яе».

Пэўна ж, грузчыкам на перавалачнай базе Федзя доўга не ўтрымаўся. Астаўшыся без работы і без рубля ў кішэні, ён трохі прыпыніўся і перастаў піць.

Стоячы неяк на мястэчковым рынку каля каляскі з яблыкамі, нарванымі, пэўна, недзе ў сваякоў, ён павітаўся са мною і тады ж пасля нашай нязначнай гутаркі з роспытамі пра жыццё ды здароўе, са смуткам прызнаўся: «Цяпер не п'ю — грошай вобмель».

Але гэтая яго смутная радасць, якою ён дзяліўся з усімі для адводу вока, каб неяк супакоіць сябе і іншых, была, вядома, кароткай, усяго покуль не прадаліся дробныя, пабітыя паршою яблыкі і ў руцэ не замуляў рубель.

Бо варочаючыся дадому, я ўбачыў яго пры грудку збоку не вельмі яшчэ бойкай тады і не заасфальтаванай шашы: ён ляжаў на сваёй двухколцы, упёртай прастакутнікам ручкі ў жвірыстую сцежку пад сухім, сцішным шэптам адзінокай бярэзіны.

На другі год, у пачатку кастрычніка, у пору бабінага лета, калі ў нас яшчэ, бывае, дакошваюць атаву, калі стаяць ціха-прымружаныя і зацягнутыя сiняватай смугою дні і свецяцца жоўтай яснасцю шурпата-калючыя дзічкі на затравелых узмежках поля, дык на другі год, прыехаўшы дадому, я пачуў нечаканую вестку, што працяла шчымлівым болем маё сэрца: памёр Федзя, во нядаўна, на тым тыдні.

Перад гэтым Федзя ўжо рабіў на базе шклатары, прымаючы бутэлькі, якія тады, асабліва ад «чарніла», здавалі цэлымі мяхамі, падвозячы на веласіпедах. Там, на базе шклатары, ён і параніў сабе нагу. Рана разгнаілася, але ён маўкліва трываў, покуль нага не распухла і покуль яго не паклалі ў бальніцу, збіраючыся ўжо нават рабіць аперацыю — у яго пачыналася гангрэна... Ён, вядома, не даўся і ўцёк дадому.

Прыцікаваўшы ды падпільнаваўшы, што і дзе робіцца ў вёсцы: хто перастрэшвае хату, хто перасыпае хляўчук ці муруе склеп, ён кульгаў туды і самапростам рваўся памагаць, больш замінаючы, пэўна ж, і перашкаджаючы ў рабоце. Ён нейкім сваім нюхам чуў, дзе будзе чарка.

Потым знайшлася справа ўжо нібы і па ім — адспеўваць са старымі бабамі нябожчыкаў. Федзя дастаў недзе пад чужою бэлькаю стары, падточаны моллю каталіцкі малітоўнік, і ўжо нібы замяніў арганіста, былога валютчыка, што быў нават і сядзеў, за тое, што хітравата, нават не сам, а праз іншых, нібыта на спрат, у старых бабак, што ў святыя дні, не могучы, але прыпаўзалі да касцёла, вымагаў залатыя, яшчэ мікалаеўскія пяцёркі ці дзесяткі, а цяпер, вярнуўшыся з турмы і перабраўшыся ў далёкі Слонім, і па хваробе ды па колькасці пахаванняў не паспяваў прыехаць.

Бліжэйшыя вёскі пачалі запрашаць Федзю — ён быў нават выгаднейшы: не трэба столькі плаціць, хіба ўжо рубель, адно, вядома, пасадзіць за жалобны стол, дзе перад першаю памінальнаю чаркаю Федзя яшчэ зацягваў кароткую малітву.

Але нялечаная нага ўзяла сваё, і Федзя злёг, цярпліва, у муках пераносячы боль — адгнівалі пальцы, і гэтак цярпліва і ўпарта, нібы на злосць, на помсту, на дакор усім, з гнеўным адчаем чакаючы смерці.

— У труне ён ляжаў, як жывы, — расказвала мне маці. — Тыдзень, як пахавалі. Во і малітоўнік у мяне забыўся. — І яна дастала тоўстую кніжку ў лакіраваных чорных вокладках.

І мне ўспомніўся нечакана далёкі дзень лета, пясчаная дарога, на якой яшчэ не высахлі дажджавыя лужыны, і ён, Федзя, босымі нагамі падганяе, таўчэ ў чэрава сваю бельгійскую кабылу, поруч з якой тупае цыбатымі ножкамі палавое, з кучаравым хвастом, палахлівае жарабятка.

## ПА ЗАКОНАХ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

**Беларуская літаратура за мяжой пакуль што найбольш выдаецца ў Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі — славянскіх краінах. Відаць, не ў апошнюю чаргу тут мае значэнне блізкароднаснасць моў. Паміж гэтымі краінамі і БССР сёння існуюць трывалыя літаратурныя сувязі.**

**А як склалася сітуацыя з перакладам беларускай літаратуры, скажам, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы! Спадзяюся, што нейкае ўяўленне пра гэта дасць інтэрв'ю з Норбертам Рандавым — удзельнікам І Міжнароднага семінара перакладчыкаў беларускай літаратуры ў «Ісламы».**

# Норберт РАНДАЎ: «ЗАЙМАЮСЯ ПОШУКАМІ»



«Перакладчыкі — паштовыя коні асветы». Гэтыя словы Пушкіна прыгадваеш заўсёды, калі сустракаешся з перакладчыкам, майстрам сваёй справы, які сапраўды вязе воз творчага набытку чытачам сваёй краіны, тым самым ажыццяўляе паштовую функцыю, функцыю сувязіста паміж літаратурамі. Адчуванне такое ідзе ад працы перакладчыка, цяжкай і адказнай, ад аграмаднасці той задачы, якая стаіць перад ім.

У творчы набытак нямецкага перакладчыка Норберта Рандава (ГДР) з беларускай мовы — а перакладае ён яшчэ і з рускай, балгарскай, лацінскай, старагрэчаскай — увайшлі апавяданні М. Багдановіча, А. Гаруна, М. Гарэцкага, К. Каганца, М. Чарота, Ядвігіна Ш., аповесці (пераклаў разам з Гундулай і Уладзімірам Чапегамі) В. Быкава «Абеліск» (1975), «Здрада» (1978), А. Кудраўца «Раданіца» (1983). Дарэчы, гэтыя аповесці В. Быкава ў тым жа перакладзе апублікаваны ў 1985 годзе ў ФРГ. Норберт Рандаў укладальнік першай анталогіі беларускага апавядання на нямецкай мове «Буслы над балотамі» (1971), да якой напісаў каментарый і пасляслоўе. Перакладчыцкую працу Н. Рандаў спалучае з даследчыцкай: у друку ГДР выступае з артыкуламі, рэцэнзіямі, інтэрв'ю па пытаннях развіцця беларускай літаратуры, творчасці беларускіх пісьменнікаў (назаву тут імёны М. Гарэцкага, І. Мележа, Я. Скрыгана, А. Кудраўца). І ўсё гэта робіцца на высокім прафесійным узроўні. Паводле сведчання нямецкай і нашай прэсы, перакладам Н. Рандава ўласціва глыбокае пранікненне ў творчую задуму пісьменніка, у сутнасць твора, характэрна высокамастацкае ўзнаўленне арыгінала.

Але гэта далёка не ўсё, што «прывёз» Рандаў у сваім паштовым багажы. У 1987 годзе ў Лейпцыгу выйшла яго новая праца — анталогія беларускага апавядання ад 1905 да 30-ых гадоў пад назвай «Малады дубок».

**І вось мы сядзім з Рандавым у Доме творчасці «Ісландыч», куды ён прыехаў для ўдзелу ў І Міжнародным семінары перакладчыкаў беларускай літаратуры, і гутарым пра новую анталогію.**

— Для мяне гэты адрэзак часу ў развіцці беларускай прозы,— гаворыць перакладчык,— вельмі цікавы перыяд. Тады адбыўся, на маю думку, першы росквіт беларускага апавядання. У кнігу я ўключыў адзінаццаць аўтараў. Пасля кожнага твора даю пра аўтара ўрывак з успамінаў Яна Скрыгана. Змушаны быў зрабіць два выключэнні, бо не было матэрыялу: да апавядання Ядвігіна Ш. даў урывак з некралога Палуты Бадуновай «Ядвігін Ш.», а да Андрэя Мрыя — урывак з кнігі ўспамінаў Заіра Азгура. Мемуарныя матэрыялы дапоўнілі літаратурную частку кнігі, яны даюць уяўленне пра вобразы аўтараў.

**— Анталогія атрымалася цікавай і змястоўнай. Ці засталося ў вас адчуванне, што кніга выйшла такой, якую вам хацелася бачыць? Ці замінала што вам у рабоце над ёй?**

— Замінала. У апавяданні «Трафім — штучны чалавек» Лукаш Калюга расказвае пра тое, як у адным сельсавеце дзеляць дровы для сялян, расказвае з усмешкай. Дык беларускі рэдактар выкрасліў гэты пасаж, відаць, падумаў, што ён будзе выглядаць, як выпад супраць Савецкай улады. Канечне, гэта не так. Апавяданне Максіма Гарэцкага «Роднае карэнне» я браў з чатырохтомніка пісьменніка. Там яно апублікавана з купюрамі. У нас, калі робяць купюры, то даюць тлумачэнні, заўвагі да выдання. Чаму ў вас купюры ёсць, а каментарыяў няма? Так нельга. Ад гэтага залежыць культура выдання.

**— Можна сказаць, што падобнае выданне — узаконены брак. І ці знайшлі вы поўны тэкст апавяданняў?**

— Знайшоў у перыядычных і асобных выданнях 20-х гадоў. Хачу сказаць, што, акрамя шырокавядомых аўтараў, уключаны Андрэй Мрый. Яго творы — адкрыццё для мяне. Апавяданне Мрыя «Камандзір» я стаўлю побач з апавяданнямі Бабеля. Цаню і яго сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя», часткова апублікаваны на старонках «Узвышша».

**— Вы маеце, безумоўна, рацыю. Андрэя Мрыя трэба і ў нашы даведнікі ўключаць. Дарэчы, вам не траплялася яго фота?**

— Калі б я меў яго фота, то анталогія выйшла б са здымкамі беларускіх пісьменнікаў, як гэта было з «Бусламі над балотамі». Днямі еду ў Маскву, маю маскоўскі адрас радні Мрыя. Некалі сястра пісьменніка, скульптар Шашалевіч, ляпіла яго партрэт — пра гэта я вычытаў ва ўспамінах Азгура. У Маскве займуся пошукамі. Можа ўдасца знайсці скульптурны партрэт.

**— Норберт, тут я павінен звярнуць увагу на ваша першынства, на прыярытэт у публікацыях. У свой час у анталогію «Буслы над балотамі» вы раней за нас уключылі апавяданне Алеся Гаруна. А цяпер вось уключаны Мрый. У вашым перакладзе выходзіць упершыню поўны збор «Казак жыцця» Якуба Коласа. На жаль, у нас такога выдання пакуль што няма. Па самых розных суб'ектыўных і аб'ектыўных прычынах. *Скажыце, калі ласка, а як вы прыйшлі да перакладу «Казак жыцця»?***

— У нашай краіне ёсць мастак-друкар Шаус. Вялікі прыхільнік польскага так званага *наіўнага* мастацтва. Ён выдаў нядаўна кнігу пра польскіх народных мастакоў. Асабліва вялікае ўражанне на яго зрабілі акварэлі Уладзіславы Іваньскай, якія ён набыў з мэтай публікацыі ў ГДР. Паказаў іх супрацоўнікам выдавецтва «Дэр Морген». Яму сказалі: «Знайдзі тэксты, тады апублікуем». Мы з Шаусам дагэтуль не былі *знаёмы, але адзін наш* агульны сябра падказаў яму, што я, магчыма, маю такія тэксты. Выдавецтва звярнулася да мяне, і я сказаў, што такія тэксты, рамантычныя, звязаныя з прыродай, алегарычныя, ёсць,— гэта «Казкі жыцця» беларускага пісьменніка Якуба Коласа. Я напісаў рэцэнзію на «Казкі...», і выдавецтва згадзілася выдаць. Вырашылі пытанне і аб перакладчыку: перакладаць Коласа будзе Ула (Гундула Чапега — сястра Н. Рандава.— **А. Г.**), а я адрэдагую. У рэцэнзіі я падкрэсліў, што ў Беларусі «Казкі жыцця» не выдадзены ў поўным аб'ёме. Гэта яшчэ больш падбадзёрыла выдаўцоў.

**— Як вам удалося сабраць цыкл у адно цэлае?**

— У асобным беларускім выданні 1960 г. адсутнічае пяць казак. Я лічу, што гэта дрэннае выданне. Як я шукаў? Ну, скажам, «Дудар». Ён быў у «Буслах над балотамі», я ўзяў адтуль — для гэтай анталогіі я яго знайшоў у старой беларускай хрэстаматыі 1923 года. У чатырнаццацітомным Зборы твораў Якуба Коласа гэты «Дудар» наогул адсутнічае, а другі «Дудар» ад дваццаць другога года ўключаны ў раздзел народных казак, апрацаваных пісьменнікам. Гэта памылка, бо «Дудар» 1922 г.— не народная, а арыгінальная казка ў духу і стылі іншых алегарычных «Казак жыцця». Пра гэта гаворыць і М. Мушынскі ў «Летапісе жыцця і творчасці Якуба Коласа». У маім выданні будзе «Дудар» 1922 і «Дудар» 1906 года, якія з'яўляецца шостым апублікаваным творам Якуба Коласа, як гэта бачна з бібліяграфіі Якуба Коласа 1906—1917 гг. Усе творы я змясціў у храналагічным парадку. У якасці дадатку ўключыў у кнігу першы раздзел першай часткі паэмы «Сымон-музыка», таму што Колас пачаткова назваў яе «Казкай жыцця». У кнізе змешчана маё пасляслоўе і бібліяграфічная даведка пра гісторыю «Казак жыцця».

**— Вернемся да анталогіі. Чым вы тлумачыце яе часавыя рамкі? Чаму вы ўзялі такі перыяд?**

— У гэты перыяд, як вядома, адбыліся такія важныя гістарычныя падзеі, як рэвалюцыя 1905 года, беларускае адраджэнне, першая сусветная вайна, Кастрычніцкая рэвалюцыя, стварэнне рэспублікі, будаўніцтва сацыялізму. Чвэрць стагоддзя. Паказваючы іх, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Гарэцкі і іншыя вашы пісьменнікі адлюстроўвалі нацыянальны характар беларускага народа. Што мяне і прываблівае.

**— Мне вядома, што вы ўзяліся за пераклады народнай творчасці, у прыватнасці, прыказак і прымавак. Цяжка яны даюцца вам?**

— Цяжка. У маім перакладзе выйшла аналагічная кніжка з балгарскай мовы. Пяцьсот прыказак я пераклаў параўнаўча лёгка, таму што балгарская мова — другая мая мова. У Балгарыі я пражыў каля пяці год і свабодна гавару па-балгарску. Беларускую мову я ведаю пасіўна, гэта значыць, гаварыць не ўмею, але чытаю свабодна. Да таго ж, частка беларускіх прыказак і прымавак рыфмаваная. Тут для перакладчыка цяжкасць, бо пажадана не ўжываць вольны пераклад. Прыказкі і прымаўкі знаходзяцца як бы на мяжы слова і паэзіі. Усё гэта трэба ўлічваць. Перакладаю гэтыя прыказкі і *прымаўкі* з Уладзімірам Чапегам. Ён і напіша пасляслоўе да выдання.

**— Ці дапамагае вам, перакладчыку беларускай мовы, тое, што вы перакладаеце і з іншых моў?**

— Веданне рускай мовы дапамагае. Скажам, са старабалгарскай — не вельмі дапамагае, бо гэта аддаленыя мовы. Я вывучыў беларускую мову, засвоіў гісторыю беларускай літаратуры ў час працы над першай анталогіяй «Буслы над балотамі». З шэсцьдзесят пятага да семдзесят першага года я ўзмоцнена займаўся беларусістыкай, усё чытаў, што ў нас можна было знайсці на нямецкай і англійскай мовах. Акрамя кніг з Беларусі, я атрымліваў праз бібліятэчны абанемент старыя выданні з Ленінграда, Літвы, Польшчы, ФРГ. Адчуў сябе ўзбагачаным. Цяпер вось я пазнаёміўся з самой Беларуссю. Да гэтага я толькі аднойчы быў у вас, і то ў адным Мінску (у дадатак тады надвор'е стаяла дрэннае). Тым разам пазнаёміўся з многімі вашымі пісьменнікамі.

**— Я асабіста добра помню той ваш прыезд.**

— Раней я ўяўляў Беларусь толькі па кніжках.

**— Цікава, з якіх кніжак вы пачыналі?**

— «Алеся» Купрына, «Лес шуміць» Караленкі, трэці том «Беларусаў» Карскага, апавяданні Ядвігіна Ш., «Гісторыі крыўскай кнігі» Ластоўскага і інш. Пасля прыйшоў да беларускіх класікаў, да сучасных пісьменнікаў.

**— Калі я пытаюся ў перакладчыкаў, як кожны з іх прыйшоў да беларускай літаратуры, то часта атрымліваю адказы такога тыпу: ад знаёмства з творамі Быкава; праз асабістае знаёмства з канкрэтным пісьменнікам; заказала зрабіць пераклад выдавецтва. Ваш шлях зусім не падобны да іншых. Помню, у першы свой прыезд вы сказалі: захацелася ўведаць той край, дзе жыве мая сястра Ула, пазнаёміцца з *яго* літаратурай, яго культурай.**

— Так. Мая сястра выйшла замуж за Уладзіміра Чапегу, таксама перакладчыка. Тут жывуць мае пляменнікі, як іх я называю, паўбеларусы, паўнемцы. Жывуць сярод добрага, чулага народа.

**...Пасля гасцявання ў Мінску Норберт Рандаў паехаў у Маскву, дзе яго чакалі, як ужо гаварылася, і нашы беларускія справы.**

**Праз некалькі тыдняў пасля ад'езду госця я сустрэў Сяргея Грахоўскага і загаварыў з ім пра Андрэя Мрыя. «Дык яго дочкі жывуць у Петразаводску я зусім нядаўна даведаўся»,— сказаў паэт.**

**З'явілася яшчэ адна нітачка для пошукаў матэрыялаў пра жыццё і творчасць пісьменніка, чыё імя было доўгі час незаслужана забыта. А сваю перакладчыцкую справу Н. Рандаў не ўяўляе без даследчыцкіх пошукаў, без адкрыццяў.**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

На здымку: Я. БРЫЛЬ, Г. САБЕЦКА (ПНР), Н. РАНДАЎ, (ГДР) на Свіцязі (1987).

Фота Ул. КРУКА.

## ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ

# Будынак на беразе Дняпра

**У 50-я гады былі знішчаны амаль што дарэшты манументальныя помнікі такіх беларускіх гарадоў, як Віцебск, Магілёў, Шклоў, Пінск, Орша і інш. Кандыдат мастацтвазнаўства Зянон Пазняк у артыкуле «Вежы старых муроў» («Беларусь», № 7, 1987) зазначыў, што ў Оршы пасля вайны ўжо было знішчана каля дванаццаці помнікаў дойлідства. І менавіта таму, што ад некалі славутых архітэктурных комплексаў нічога не засталося, сёння ўвесь гістарычны цэнтр нашага горада — суцэльная пустэча.**

**Адзіны помнік былой архітэктуры, якому, можна сказаць, пашчасціла, — гэта касцёл XIX стагоддзя (у сярэдзіне ёсць надпіс «1870»). Тым не менш гэты будынак (па вул. Савецкай, № 1) нават не пазначаны ў «Зборы помнікаў» Віцебскай вобласці. Такое становішча, на наш погляд, патрабуе неадкладнага выпраўлення! Тым больш, што сёння ў будынку касцёла месціцца Дом культуры будаўнікоў, які пільна патрабуе рамонту. За некалькі апошніх дзесяцігоддзяў былы касцёл «аброс» прыбудовамі і займеў не дужа прывабны выгляд. Але шмат першапачатковых рыс захавалася, і нават «неспецыялісту» бачна, што будынак можна адрэстаўрыраваць.**

**Толькі як не быў літасцівы да нашых помнікаў лёс, так не шкадуюць іх і людзі! Зараз Аршанскі філіял інстытута «Віцебскграмадзянпраект» распрацоўвае праект рэканструкцыі Дома культуры будаўнікоў. Але пра тое, каб надаць касцёлу XIX стагоддзя колішні выгляд, няма і гаворкі. Да яго зноў «прылепяць састаўныя часткі», і ўсё гэта разам будзе ўвасабляць сабою «культурную ўстанову». Якая ж увогуле можа весціся размова пра культуру, калі перад намі відавочны факт *знішчэння* (да таго ж знішчэння вельмі дасканалага!) помніка архітэктуры?!**

**Упэўнены, што аршанскія будаўнікі з задавальненнем перадалі б гораду гэты старажытны будынак у якасці выставачнай ці *канцэртнай залы* (зала былога касцёла мае найвыдатнейшую акустыку!) — яны патрэбны нашаму гораду! А грошы, якія мяркуецца пусціць на так званую «рэканструкцыю», прыдаліся б ці на новы Дом культуры, ці на іншыя патрэбы будаўнікоў.**

**Орша ўсё ж амаль што тысячагадовы горад, і трэба, каб хоць нешта сведчыла аб тым, што тут была свая, адмысловая архітэктура. І доказам таму, прынамсі, мог бы стаць адноўлены старажытны будынак на беразе Дняпра.**

**Члены клуба аматараў гісторыі «Повязь»:**
**В. СЦЯПАНАЎ, настаўнік Панізоўскай СШ,**
**Ю. КАПЛУН, рабочы льнокамбіната,**
**А. ТАНАНА, настаўніца СШ № 16,**
**В. ЕРМАЛОВІЧ, настаўнік Бабініцкай СШ.**

г. Орша.

●

**Калі пісьмо было падрыхтавана да друку, *мы атрымалі* яшчэ адзін ліст з Оршы, ад рабочых будаўнічага трэста № 18.**

**Аршанскі філіял інстытута «Віцебскграмадзянпраект», пішуць яны, рыхтуе праект рэканструкцыі старога будынка Дома культуры будаўнікоў. Але ж гэта — былы касцёл XIX стагоддзя, які быў прыстасаваны пад культурную ўстанову. Гэты помнік архітэктуры — адзіны, які захаваўся ў гістарычным цэнтры Оршы. Праўда, ён крыху перароблены, але спецыялістам-рэстаўратарам няцяжка было б вярнуць будынку яго першапачатковы выгляд. У адрэстаўраваным будынку можна было б размясціць канцэртную і выставачную залы. Акустыка там выдатная, а горад, дарэчы, даўно мае патрэбу ў такой невялікай зале, дзе можна было б наладжваць канцэрты і вернісажы.**

**Зразумейце нас правільна: мы не супраць уласнага Дома культуры, але супраць таго, каб знішчалася наша мінулае, праца нашых продкаў. Атрымліваецца, што 920-гадовы горад вырашана пазбавіць апошніх гістарычных рысаў? Але будзе яшчэ раз парушана справядлівасць, калі праект рэканструкцыі помніка архітэктуры застанецца ў сіле. Няўжо і яму наканаваны такі *лёс*, *як і астатнім* помнікам архітэктуры Оршы? Успомнім толькі тыя, што былі паблізу ад былога касцёла. Гэта царква XIV стагоддзя, якую разбурылі ў 1954 годзе, а на яе месцы размясцілі піўны бар. Касцёл калегіума езуітаў знішчаны ў 1969—70 гадах, цяпер тут — камісійны магазін. Царкву «Апекі маці Боскай» разбуралі ажно пяць гадоў. І вось у гэтым гістарычным вакууме застаўся толькі адзін гістарычны будынак, пра які мы вядзем гаворку. Але, паўтараем, гэты помнік варты таго, каб за яго змагацца.**

**Мы разумеем, што адразу пачынаць рэстаўрацыю былога касцёла немагчыма, але першае, што трэба зрабіць, дык гэта паставіць будынак пад ахову дзяржавы і ўключыць яго ў «Збор помнікаў»...**

**В. РУСЕЦКІ,**
**В. АРЛЮК,**
**І. ЛІС.**

дзел «Мовазнаўства». Артыкул дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР А. Жураўскага «Беларускае савецкае мовазнаўства: здабыткі, праблемы, шляхі развіцця» (змешчана першая частка) разглядае шлях, пройдзены мовазнаўствам за гады Савецкай улады. Шкада, што ў гэтым артыкуле шмат пералікаў прац і прозвішчаў.

Хораша адзначыў часопіс 150-годдзе з дня нараджэння К. Каліноўскага. У артыкулах М. Арочкі, В. Навуменкі, В. Самаля, Л. Дробава, Г. Куляшовай расказваецца, як воблік народнага героя ўвасоблены ў творах літаратуры, мастацтва, у тэатры, музыцы, кіно. З задавальненнем выкарыстаюць настаўнікі і матэрыялы літаратурнай кампазіцыі «З думай пра Беларусь» (падрыхтавала настаўніца СШ № 137 г. Мінска Е. Мацюш). Толькі ў далейшым, думаецца, падобныя публікацыі павінны з'яўляцца загадзя, каб педагогі маглі выкарыстаць іх у падрыхтоўцы да юбілеяў.

**Рэдкалегія адразу ўзяла правільны накірунак — не замыкацца на праблемах «вузка цэхавых»: «У часопісе плануецца змясціць шэраг матэрыялаў па міжпрадметных сувязях — сувязі роднай літаратуры з рускай і іншымі літаратурамі, з нацыянальнай гісторыяй, музыкай і выяўленчым мастацтвам, тэатрам і кіно, фальклорам і этнаграфіяй, артыкулы па духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў і братніх народаў па псіхалогіі і дыдактыцы». У бліжэйшых планах — зрабіць часопіс трыбунай педагогаў, метадыстаў і работнікаў народнай асветы (у нумары прыцягваюць увагу выступленне дэлегата Усесаюзнага з'езда настаўнікаў М. Хілько «Жадаю плённага пасеву» і развагі маладых настаўнікаў «Першыя крокі»), пісьменнікаў і дзеячаў культуры.**

З першага нумара рэдакцыя абапіраецца на шырокія колы грамадскасці (у рэдакцыйны савет увайшлі пісьменнікі А. Руцкая і Б. Сачанка, літаратуразнаўцы Т. Грамадчанка, М. Лазарук, В. Смыкоўская, мовазнаўцы М. Бірыла, І. Лепешаў, Г. Малажай і іншыя, створаны грамадскія карэспандэнцкія пункты пры кабінетах беларускай мовы і літаратуры інстытутаў удасканалення настаўнікаў — рэспубліканскім, абласных, Мінскім гарадскім). Адразу бярэцца кірунак на калегіяльнасць у рабоце, на абмеркаванне важных пытанняў. Шлях, трэба думаць, і правільны і плённы.

Застаецца пажадаць часопісу традыцыйнага — «У добры шлях!».

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

# Памяці фальклярыста і кампазітара

Памёр Павел Восіпавіч Каруза, старэйшы беларускі фалькларыст - музыказнаўца, харавы дырыжор, аўтар песень.

Далёкія продкі Паўла Карузы паходзілі з Італіі. Дзед і бацька ўжо аралі і засявалі свой надзел на Глыбоччыне як карэнныя земляробы. П. Каруза нарадзіўся 25 лютага 1906 года. У 20-я гады, калі тутэйшы люд Заходняй Беларусі стаў усведамляць сябе народам і рупіцца аб сваіх палітычных правах і духоўных набытках, П. Каруза быў падхоплены шырокай хваляй грамадскага руху. Пад уплывам вядомага збіральніка і прапагандыста беларускай песні Антона Грыневіча пачаў запісваць фальклор. Паступіў у Віленскую кансерваторыю. Даволі актыўна супрацоўнічаў у вызваленчым друку. Стаў кіраўніком хору Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Хутка заваяваў прызнанне як працаўнік на беларускай культурна-грамадскай ніве.

У 1928 годзе быў выбраны ў сейм Рэчы Паспалітай ад жыхароў Свянцяншчыны. Аднак новы склад сейма здаўся Пілсудскаму занадта радыкальным, і ён у 1930 годзе самачынна разагнаў яго.

Расчараваны ў магчымасцях культурнай і грамадскай працы ў Вільні, П. Каруза, як і тысячы іншых прадстаўнікоў заходнебеларускай моладзі, уцякае ў СССР. Аднак надзеі маладога культурніка выдаць сабраныя ім беларускія песні, апублікаваць арыгінальныя музычныя творы ў Савецкай Беларусі, у Мінску, куды даўно ўжо перабраўся яго настаўнік А. Грыневіч, не спраўдзіліся: быў пачатак 30-х гадоў, мінулі рэнесансавыя 20-я. Неўзабаве пасля пераходу польска-савецкай граніцы П. Каруза быў рэпрэсіраваны і толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны здолеў вярнуцца ў Беларусь. Працаваў дырыжорам у Маладзечанскім ансамблі песні і танца. Аднак нядоўга. Толькі ў 1957 годзе быў цалкам рэабілітаваны. Пасяліўся ў Вільнюсе. Працаваў настройшчыкам музычных інструментаў і, як дырыжор і кампазітар, у Дзяржаўным ансамблі польскай песні і танца Літоўскай ССР.

Стала кантактаваў з беларускімі фалькларыстамі ў Мінску. Удзельнічаў у экспедыцыях, на падставе меласу пісаў даследаванне, прысвечанае этнагенезу беларусаў. У «ЛіМе», «Мастацтве Беларусі» выступіў з успамінамі пра энтузіяста беларускай песеннай культуры Грыневіча, падрыхтаваў да публікацыі фальклорную спадчыну гэтага падзвіжніка беларускай песні.

Пільную ўвагу ўдзяляў П. Каруза мастацкай апрацоўцы беларускай песні, асабліва глыбока ведаў, адчуваў стыхію каляндарна - абрадавай паэзіі. У апошнія гады П. Карузам былі напісаны творы на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ніла Гілевіча. Незадоўга перад смерцю фалькларыст прыслаў на суд А. В. Багатырову сваю камерную сімфонію.

**Арсень ЛІС,**
**Галіна БАРТАШЭВІЧ,**
**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ,**
**Лія САЛАВЕЙ,**
**Мікола СТОМА.**

ліквідаў — хапіла б на сотню «індывідуалаў».

ДЗІЎНА, але ў многіх слова «кааператыў» асацыіруецца толькі са словам «нажыва». Маўляў, «ведаем мы іх». Чаму мы не заўважаем, што са з'яўленнем кааператываў з'явілася і новая катэгорыя таленавітых людзей — сапраўдных генератараў дзяржаўных ідэй, ідэй, якія ўсім нам патрэбны, але якія мы адштурхоўваем, дзейнічаюць па прынцыпе «абы ціха».

У кааператыве «Арбіта» мне задалі пытанне, на якое я не мог даць адказу. Сутнасць яго? На многіх прадпрыемствах ёсць, так сказаць, падсобная або эксперыментальная прадукцыя, якую выпускаюць невялікімі партыямі. Для гэтага прыходзіцца адкрываць спецыяльныя цэхі, трымаць штат. Сабе, вядома, ва ўрон. Чаму б за выпуск такой прадукцыі (а яна бывае аднатыпная для некалькіх прадпрыемстваў) не ўзяцца кааператывам? Дзейнасць іх была б карыснай для дзяржавы, бо пазбавіла б ад выканання такіх заказаў іншыя прадпрыемствы, знізіла б агульныя выдаткі працы, паскорыла б фондазварот. Члены «Арбіты» выйшлі з такой прапановай у Савецкі райвыканком, але адказам было глухое маўчанне.

— Ну а калі б раптам вам пайшлі насустрач, дзе б вы ўзялі абсталяванне?

— Яго, нявыкарыстанага, на кожным прадпрыемстве ведаеце колькі? — пачаў я. — Гадамі ляжыць пад адкрытым небам, іржавее, псуецца. Хай прададуць нам. Мы купім...

Я слухаю падобныя гісторыі і думаю: а ці ёсць наогул такое месца, дзе б бюракрат не імкнуўся паказаць сваю ўладу? Вы памятаеце, колькі сатырычных стрэлаў было выпушчана па чыноўніках, гэтакіх столаначальніках, напрыклад, патрабавалі ад наведвальніка даведкі, што яму патрэбна даведка? Па цяперашніх мерках той «начпупс» — бяскрыўдны галубок. Ну, папрасіў яшчэ адну даведку, дык жа ў цябе ногі не адваляцца. Сучасны бюракрат дзейнічае куды больш вытанчана. Сам ён, вядома, за «перабудову», толькі няма на гэта, бачыце, адпаведнай інструкцыі...

Пры абутковым аб'яднанні «Праца» быў створаны кааператыў «Пластыкат», які падрадзіўся з адыходаў поліурэтану, з якога на фабрыцы робяць падэшвы, вырабляць для гэтай жа фабрыкі набоечныя пласціны (заўважым, што раней тыя адыходы вывозіліся на сметнік). Дык вось, каб кааператарам атрымаць дазвол на абрэзкі, трэба было абысці шэсць начальнікаў, каб кожны з іх паставіў на дакуменце сваю пячатку.

Гэта мне расказваў намеснік начальніка ўпраўлення па комплексным эканамічным і сацыяльным развіцці Мінскага гарвыканкома Віктар Цітавіч Пыко. Я слухаў яго і думаў, калі такая аўтарытэтная і ўплывовая арганізацыя, як Мінгарвыканком, не можа заклікаць да парадку тых уладальнікаў пячатак, дык пра што тады наогул можна весці гутарку?

Зараз пачалі шмат пісаць пра нізкую якасць кааператыўных тавараў і паслуг. Параўноўваюць яе з дзяржаўнай на карысць апошняй. У мяне гэта часам выклікае іранічную ўсмешку. Ды амаль у кожным нумары газеты вы знойдзеце матэрыял аб нізкай якасці абутку, адзення, тэлевізараў, бытавых паслуг. Але калі я кажу пра гэта, дык зусім не дзеля таго, каб неяк абяліць бракаробаў-«індывідуалаў». Калі я чую: «Купіла ў аднаго «патэнтшчыка» сукенку, якая пасля пральні ператварылася ў анучу», дык абураюся. Скажу больш. У дзяржаўны магазін мы ўсё-такі можам вярнуць бракаваны абутак, тэлевізар, веласіпед і г. д. «Патэнтшчыка» ж, які падсунуў табе дрэнь, ужо не знойдзеш. Як кажуць, шукай ветру ў полі. Кажуць, што за дзейнасцю «індывідуалаў» павінны сачыць фінорганы і органы ўнутраных спраў. Але ж сярод іх няма экспертаў па якасці тых жа штаноў ці куртак. Прадае чалавек і прадае, дакументы ў парадку — якія могуць быць прэтэнзіі? Дык мо абавязаць «індывідуалаў» прымацоўваць да сваіх вырабаў цэтлікі-пашпарты з нумарам патэнта, прозвішчам, адрасам і г. д.? Гэтым самым мы павысілі б адказнасць прыватнікаў і паставілі б шлагбаум на шляху дзялкоў, якія самі нічога не вырабляюць, а спекулююць таварамі, скупленымі ў кааператывах, а, бывае, і ў дзяржаўных магазінах.

Нам неабходна разумнае, справядлівае ўяўленне аб кааператывах і кааператарах.

— Алё! Кааператыўнае тэлеатэлье? Калі ласка, ці можна прыслаць майстра? Калі я буду дома? Сёння, пасля шасці вечара. Роўна а палове сёмай будзе? А хоць спрактыкаваны майстар? Дваццаць гадоў працуе? А колькі будзе каштаваць? Як дамовімся?..

Да гэтага я званіў у тэлеатэлье Мінбыту, дзе адказалі, што могуць прыслаць майстра толькі праз тыдзень. Што ж, буду чакаць сёння кааператыўшчыка. Свабода выбару — рэч немалаважная.

# МУЗЕЯМ — КЛОПАТ І ЎВАГУ

**На адным з апошніх пасяджэнняў сакратарыята СП БССР разгледжана пытанне: «Аб супрацоўніцтве Саюза пісьменнікаў Беларусі з літаратурнымі музеямі рэспублікі». Адкрываючы пасяджэнне, старшыня праўлення СП БССР М. ТАНК зазначыў важнасць менавіта такой гаворкі на сучасным этапе, калі ўзрастае цікавасць да гістарычнай спадчыны. Недаацэньваць ролю літаратурных музеяў мы не маем права, сказаў, працягваючы размову, першы сакратар праўлення Н. ГІЛЕВІЧ. Мы павінны разам абмеркаваць, як працуюць музеі, што зрабіць, каб у далейшым палепшыць іх работу. Дзейнасць музеяў, як вядома, звязана з гісторыяй, народнай спадчынай, і важна высветліць, як лепш ёй распарадзіцца.**

**Са становішчам, якое склалася ў рэспубліцы, з работай літаратурных музеяў, пазнаёміў прысутных дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска Ю. ВАРАНКОЎ. Намеснік дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР Г. ДЗМІТРЫЕЎ расказаў аб тым, як пісьменнікі дапамагаюць музеям у стварэнні экспазіцый, найперш музеям, якія працуюць у школах рэспублікі, гаварыў аб шэфскіх выступленнях літаратараў, што таксама садзейнічае лепшаму далучэнню вучняў да культуры. На тым, што пісьменнікі павінны больш і лепш дапамагаць музеям, акцэнтаваў увагу і намеснік старшыні мемарыяльнай камісіі СП БССР Г. КІСЯЛЕЎ.**

**Гаворку прадоўжылі інспектар Міністэрства асветы БССР Л. НАЗУЛЬКА, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Л. ХАДКЕВІЧ, намеснік дырэктара Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў па навуцы Г. ЛАЗОВІК, дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР Г. СУРМАЧ, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Ж. ДАПКЮНАС, дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа З. КАМАРОЎСКАЯ і іншыя.**

**Адзначалася, што, нягледзячы на паляпшэнне работы музеяў, павелічэнне іх колькасці, нельга сказаць, што ўсё тут робіцца належным чынам. Не ўсюды мясцовыя органы разумеюць важнасць і значэнне музеяў, як сродкаў ідэалагічнага выхавання, таму неахвотна выдзяляюць для іх памяшканні. Лепшай арганізацыі патрабуе і работа школьных музеяў, куткоў, якія працуюць на грамадскіх пачатках. Недаравальна, што ў рэспубліцы пакуль што належным чынам не ўвекавечана памяць многіх вядомых літаратараў, у тым ліку і тых, хто загінуў у перыяд культа асобы.**

**Трывожнае становішча склалася з падрыхтоўкай да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча, якое спаўняецца ў 1991 годзе. Да гэтага часу не створаны юбілейны камітэт, а да такой важнай даты неабходна рыхтавацца загадзя, тым больш, што работы шмат. Трэба зрабіць усё магчымае, каб філіял Літаратурнага музея М. Багдановіча адкрыўся ў Ракуцёўшчыне. Неабходна дбаць, каб арганізацыі, у якіх ёсць цікавыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, перадалі іх для папаўнення экспазіцыі музея.**

**Праяўляць клопат аб рабоце існуючых літаратурных музеяў, садзейнічаць стварэнню новых — адна з першаступенных задач Саюза пісьменнікаў рэспублікі. На гэтай думцы сышліся ўсе, хто прыняў удзел у абмеркаванні пытання.**

**НАШ КАР.**

# У БЕЛАРУСКІМ ФОНДЗЕ КУЛЬТУРЫ

**У рэспубліканскім Доме кіно прайшоў дабрачынны вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння К. Каліноўскага і 125-годдзя паўстання 1863—1864 гадоў. Арганізаваны ён быў Саюзам кінематаграфістаў БССР і Беларускім фондам культуры. Адбылася прэм'ера дакументальнай стужкі «Кастусь Каліноўскі» і мастацкага фільма паводле аднайменнага твора У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».**

●

**Савет садзеяння Беларускаму фонду культуры створаны на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній. Яго членамі сталі шліфоўшчыкі, эканамісты, інжынеры. Калектыў прадпрыемства пералічыў на рахунак № 702 свой першы ўзнос. Сродкі пойдуць на рэканструкцыю Верхняга горада сталіцы рэспублікі.**

●

**Аб крыжы Ефрасінні Полацкай, страчаным у гады вайны, аб слуцкіх паясах, у якіх таксама выявіўся вялікі талент беларускага народа, аб згубленых рукапісах Францішка Скарыны ішла гаворка на пасяджэнні камісіі «Вяртанне».**

**В. КУДРАЎЦАВА.**

# БЕНЕФІС САЛІСТА ОПЕРЫ

**У Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР адбыўся спектакль «Дон Паскуале» Г. Даніцэці, прысвечаны 30-годдзю творчай дзейнасці народнага артыста рэспублікі Віктара Чарнабаева. Гледачы гарачымі апладысментамі віталі эмацыянальнае выкананне партый бенефіцыянтам, а таксама народным артыстам СССР Аркадзем Саўчанкам, салісткай Тамарай Кучынскай. Прадстаўнікі тэатральнай грамадскасці Беларусі павіншавалі В. Чарнабаева, майстра вакальна-сцэнічнага мастацтва, які стварыў на беларускай опернай сцэне нямала яркіх вобразаў.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# ПОСПЕХ У КАЛОМБА

**У Каломба з вялікім поспехам прайшлі выступленні Дзяржаўнага ансамбля танца Беларускай ССР. Народныя і сучасныя танцы, выкананыя майстрамі мастацтваў з Беларусі, паланілі сэрцы ланкійскіх гледачоў, што сабраліся ў зале Савецкага культурнага цэнтра. Канцэрт артыстаў ансамбля танца быў запісаны ў студыі тэлебачання Шры Ланкі.**

**І. АРЛОЎ.**

# ЮБІЛЕЙ ГАЗЕТЫ

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна праведзены літаратурна-мастацкі вечар «Газета і пісьменнік».**

**Адказны сакратар абласной журналісцкай арганізацыі М. Гарадзецкі расказаў аб 70-гадовым шляху абласной газеты «Магілёўская праўда». На сувязях газеты і пісьменнікаў спыніўся сакратар абласнога аддзялення СП БССР І. Аношкін. Мастацкія творы змяшчаліся ў газеце з яе першых нумароў. Творчае ажыўленне пачалося ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі пры газеце была створана філія «Маладняка», якую ўзначальваў тагачасны выкладчык Магілёўскага педтэхнікума, у далейшым драматург В. Гарбацэвіч. У «Магілёўскай праўдзе» рабілі свае першыя крокі ў літаратуру Ю. Лявонны, І. Гутараў і іншыя пісьменнікі. У першыя пасляваенныя гады ў рэдакцыі працавалі М. Ткачоў, М. Гарулёў, Э. Валасевіч. Шмат год гэтай газеце аддалі В. Матэвушаў, А. Пысін, А. Кандрусевіч.**

**На вечары выступілі таксама пісьменнікі П. Шасцерыкоў, М. Шумаў, старшыня літаб'яднання «Прыдняпроўе» пры «Магілёўскай праўдзе» М. Рудкоўскі, загадчык сектара друку абкома партыі І. Знаткевіч, адказны сакратар абласной арганізацыі кнігалюбаў Я. Жалудко і іншыя.**

**Паэт А. Мельнікаў, работніца міліцыі член літаб'яднання «Прыдняпроўе» В. Габрусева і старшыня калгаса «Беларусь» член літаб'яднання «Узлёт» пры магілёўскай раённай газеце А. Капылоў прачыталі свае вершы.**

**А. НОВІК.**

## НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

З 29 лютага па 6 сакавіка

1 сакавіка, 21.50

**«ЛІРА»**

**МАСТАЦКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНАЯ ПРАГРАМА**

2 сакавіка, 19.25

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы А. Пысіна чытае А. Падабед.

2 сакавіка, 19.30

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Пра гісторыю стварэння газеты «Дзянніца», яе ролю ў развіцці нашай мовы, фарміраванні нацыянальнай свядомасці пойдзе гаворка ў нарысе «Першая савецкая». Старонка прымеркавана да 70-й гадавіны ўтварэння БССР.

2 сакавіка, 23.15

**«НАКЦЮРН»**

Музыку старажытных майстроў выконваюць Г. Гедыльтэр (флейта) і К. Шароў (клавесін).

5 сакавіка, 18.00

**«ЭКРАН: ПРАБЛЕМЫ, ГЕРОІ»**

Дакументальны фільм «Тут быў Крылоў». Абмеркаванне ў Доме настаўніка.

6 сакавіка, 10.35

Спявае саліст ДАВТа І. Шупеніч.

У праграме рамансы Чайкоўскага, Танеева, Нікалаева, Цікоцкага.

6 сакавіка, 17.15

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

Праграма прысвечана новаму часопісу «Крыніца».

6 сакавіка, 18.15

**«МІНСКІ МУЗЫЧНЫ»**

Канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў віяланчэліста І. Манігеці.

Прагучыць канцэрт для віяланчэлі з аркестрам Пендарэцкага.

6 сакавіка, 22.45

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АТ 03096 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

**ТЭЛЕФОНЫ:** прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.



Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.